+тэлепраграма № 48 (310) 27 сьнежня 2002 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы*

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# Калядны нумар 2003



акцыя "НН"

## Салідарнасьць з Марыляй



Калі я раней даведалася пра Марылю Каралькову, мне прыходзіла ў галаву неяк зьвязацца дзеля падтрымкі зь ее бацькамі, хоць і праз школу ў Горках. А тут шаноўны Мікола Купава як мае думкі прачытаў. Я ня шмат чаго магу прапанаваць, жывучы далёка, але, калі бацькі дазволяць дзіцяці павандраваць, магу на вакацыях прыняць і паказаць Маскву. Усё ж гэту чортаву Маскву і беларусы будавалі, дык чаму не скарыстацца. У нас цалкам беларускамоўная сям'я. Дарогу дзіцяці я аплачу. Безумоўна, дзіця можа прыехаць з бацькамі.

**Таіса Мішчанка, Масква**

На мінулым тыдні таксама Алесь Лагвінец зь Менску перадаў для Марылі грошы на кнігі і кампакт-дыскі. Усе ахвотныя ўзяць удзел у акцыі салідарнасьці з Марыляй Каральковай, зьвяртайцеся ў Рэдакцыю "НН".

**7 апавяданьняў зімовых вечароў**

Старонкі 13–23.



**Андрэй Хадановіч**

## Раство на "Раствора-бэтонным"

Раство на "Раствора-бэтонным".
Сьнежань за часам мясцовым.
Цяжка брысьці мадоннам
у зімным сьвятле месяцовым

ходзішчам незнаёмым
зь ліпамі паабапал.
Вось Гаспар пакрыёму,
нібы кульгавы д'ябал,

вось Бальтазар з батонам,
вось Мэльхіёр зь бітонам –
на пацеху мадоннам
крочаць "Раствора-бэтонным".

Слота вечная наша,
зьвыклы голад і холад.
Вецер *made in Russia*,
вецер *made in Poland*.

Паўзе апошні тралейбус.
Наступны прыпынак "Раствора-бэтонны". Падпіты бэйбус
глядзіць на мадоннаў сувора.

Дзеўкі – ведзьма на ведзьме –
бавяцца ў тамагочы.
Месцаў мадоннам зь дзецьмі
ніхто саступаць ня хоча.

На мерзлых шыбах узоры –
лотаць, канвалі, ружа –
банальна зьвялі – *I'm sorry* –
ад рыфмы банальнай "сьцюжа".

Зімна крохкім бутонам.
Парай плыве гаворка.
Над "Раствора-бэтонным"
у небе спыняецца зорка.



"НН"

Пажарнікі перакурваюць на гарышчы-папялішчы

# Пажар у Нясьвіжы

24 студзеня, акурат на Сьвяты вечар, загарэўся Нясьвіскі замак. Пажар пачаўся каля 19-й. Атрымаўшы сыгнал, супрацоўнікі Нясьвіскага райаддзелу Міністэрства па надзвычайных сытуацыях выехалі на месца, аднак самі рады даць не змаглі. Давялося выклікаць дапамогу з суседніх раёнаў — Капыльскага і Баранавіцкага, а потым Клецкага ды Менскага. Палаў дах цэнтральнае вежы Радзівілаўскага замку. Агонь займаў плошчу 300 кв.м.

Лякалізаваць пажар удалося толькі а 21-й, а канчаткова загасіць — каля другой гадзіны ночы. На шчасьце, ахвяраў не было. Як паведамілі ў МНС, у ліквідацыі пажару былі задзеяныя 127 супрацоўнікаў і 18 пажарных машынаў.

Вежа цяпер стаіць зусім бяз даху, моцна пацярпела ляпніна XVIII ст. Карціны ў самім замку (у тым ліку і ўнікальная расьпісаная столь памерам 15 на 18 м) засталіся цэлымі — адно што закурэлі.

Працяг на старонцы 2.

## Каляднае пасланьне а.Аляксандра Надсана, апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў замежжа



**Вось Дзіця нарадзілася нам, Сын быў дадзены нам: улада спачыла на ягоных плячох. І дадуць Яму імя: Анёл вялікай рады, дзіўны Дарадчык, Бог магутны, Уладар, Князь супакою, Айцец будучага веку. (*Іс. 9:5*)**

Калядныя сьвяты прыходзяць з занудлівай рэгулярнасьцю кожны год ужо колькі стагодзьдзяў. Столькі слоў было сказана пра гэтае сьвята, столькі прыгожых песьняў створана, што, здавалася б, ужо не засталося нічога новага сказаць. Дый ці трэба высільвацца на нешта новае, ці ня варта часам затрымацца і ўдумацца ў старое, ужо сказанае, як, прыкладам, толькі што прыведзеныя словы прарока Ісаі, сказаныя за больш чым сямсот гадоў да нараджэньня Хрыста.

"Дзіця нарадзілася нам..." Што можа быць больш безданаможным, больш бяскрыўдным і адначасова больш нявінным, як нованароджанае дзіцятка? Ягонае існаваньне цалкам залежыць ад іншых людзей, у першую чаргу бацькоў. І трэба мець сапраўды закамянелае сэрца, каб не адчуць цеплыні й спагады, калі гэтая маленькая істота працягвае да цябе даверліва свае ручкі.

"Улада супачыла на ягоных плячох". І вось гэты Ўладар сам добраахвотна аддаецца ў рукі сваіх падуладных, як бездапаможнае дзіцятка. Ён адмаўляецца ад якой-колечы сілы ці прымусу. Ён хоча людзкія сэрцаў, каб у іх устанавіць сваё валадарства. А тут ніякі прымус не дапаможа, бо сэрца даецца толькі добраахвотна.

Такім чынам, Госпад Ісус ад самага пачатку адмаўляецца ўжываць сілу і прымус. Ягонае валадарства перш за ўсё ў сэрцах людзкіх: "Валадарства Божае ўнутры нас" (*Лк 17:21*). Ён ведаў, што той, хто пойдзе за ім добраахвотна, дзеля любові да Яго, будзе старацца жыць і рабіць так, як Ён, паводле словаў Сьвятога Апостала Паўла: "Хай у вас будуць тыя самыя пачуцьці, што ў Хрысьце Ісусе" (*Пілп 2:5*). У сьвятле гэтага зразумелымі стаюцца на першы погляд парадаксальныя словы Сьвятога Аўгустына: "Любі і рабі што хочаш".

Ня ведаю, ці зразумелі гэта валадары гэтага сьвету, але яны адчулі ў гэтым малым дзіцятку небясьпеку для сябе і зрэагавалі ў адзіны спосаб, які яны ведалі: вырашылі зьнішчыць Яго. І хоць ім гэта тады не ўдалося, яны прынесьлі шмат гора і пакутаў іншым, ні ў чым ня вінным людзям. Але для іх гэта было няважна, гэта былі непазьбежныя ахвяры дзеля гэтак званага "агульнага дабра". У сучаснай вайсковай тэрміналёгіі гэта называецца далікатна "*lateral damage*" (пабочныя страты). Бяда толькі, што ахвярамі ніколі не бываюць кіраўнікі, а толькі іх падуладныя.

Праблемы, якія існавалі ў часы Хрыста, засталіся і ў наш час, толькі яны набылі жахлівы, глябальны характар. Досыць глянуць на краіну, дзе нарадзіўся Хрыстос, дзе ўжо амаль паўстагодзьдзя ідуць намаганьні сілаю ўстанавіць "спакой" і "пабочныя страты" дасягаюць дзясяткаў, калі ня сотняў тысячаў бязьвінных ахвяраў.

Працяг на старонцы 6.

# Афіцыйны Менск паважае сілу

**Людзям уласьціва думаць: калі Івану нешта не ўдалося, дык мне ўдасца. Прыблізна гэтак разважалі і партугальскія палітыкі: калі іншым краінам Эўропы не ўдалося ўгаварыць афіцыйны Менск прыняць місію АБСЭ, нам гэта ўдасца.**

І таму Партугалія была адзінаю краінаю Эўразьвязу, якая не забараніла ўезду на сваю тэрыторыю Лукашэнку і тым, каторыя зь ім. Міхаіл Хвастоў нават пакрасаваўся на сустрэчы міністраў замежных спраў краінудзельніц АБСЭ ў Порту. Тады ж урачыста было абвешчана, што ў панядзелак, 9 сьнежня, у Вене пачнуцца перамовы паміж Беларусяй і АБСЭ пра аднаўленьне дзейнасьці ў Менску працы кансультацыйна-назіральнае групы Арганізацыі бясьпекі і супрацоўніцтва. Прайшло 9 сьнежня, прайшло 10-га, а перамовы не пачаліся. 11-га нехта пусьціў чутку, што перамовы йдуць — ледзь не таемныя.

Эўропе, калі яна зрабіла першы рашучы крок, ня варта было б нават пачынаць гэтыя перамовы. Трэба было ў стылі Лукашэнкі — жорстка — запатрабаваць ад Менску выконваць узятыя ім раней абавязацельствы.

Лукашэнка хацеў бы зьвесьці функцыю місіі АБСЭ да назіраньня за захаваньнем правоў чалавека ў Беларусі: няхай, маўляў, стогнуць і плачуцца, а мы будзем рабіць па-свойму. Місія пазбавілася б магчымасьці назіраць за выбарамі, рэфэрэндумамі. Другая функцыя, якую Лукашэнка хоча перакласьці на Эўропу, — вырашэньне ім жа створаных эканамічных праблемаў, і таму Менск хоча, каб місія была чымсьці накшталт гандлёвага пасярэдніка між Беларусяй ды краінамі АБСЭ.

Якая б магла быць палітыка ЗША, Канады і Эўразьвязу ў дачыненьні да Менску? Ні ў якім разе не адступацца ад раней вызначаных функцыяў місіі АБСЭ. Калі Менск будзе ўпарціцца, Захад можа даставаць адну за адною казырныя карты — сьпіс "неўязных" можна пашырыць за кошт міністраў эканомікі, фінансаў, энэргетыкі, прамысловасьці ды старшыні праўленьня Нацбанку. Ня Захаду ж трэба абнаўляць асноўныя фонды, не яму патрэбныя найноўшыя тэхналёгіі, інвэстыцыі і крэдыты. Не дапаможа гэта — краіны Захаду могуць не пралангаваць старых і не заключаць новых дамоваў пра куплю беларускіх тэкстылю, калійных угнаеньняў ды іншых артыкулаў экспарту...

У ЗША і Канадзе ўжо разумеюць, што з афіцыйным Менскам нельга размаўляць інакш, як моваю палітычнага і эканамічнага байкоту. Цяпер гэта мусіць зразумець Эўропа.

Афіцыйны Менск паважае сілу. Вунь як рахмана паводзяцца самыя высокія начальнікі, калі ўзьнікла пагроза газавага голаду. А як выступаў адзін зь іх у жніўні, якія бочкі на Маскву каціў! Папярэджвалі яго тады: цэны на газ і нафту могуць падняцца. Ня верыў і выступаў. Падняліся цэны на газ — аціх. У падобны спосаб і Захад павінен паводзіць сябе зь Менскам.

Мажліва, нехта ўпікне мяне: як ты можаш заклікаць да эканамічнага байкоту? Пацерпіць жа народ. Гэта непатрыятычна. Але рэжым ужо восем гадоў вядзе непатрыятычную палітыку. Упэўнена скарачаюцца працягласьць жыцьця і натуральны прырост насельніцтва. Нацыя вымірае. Рэжым выштурхоўвае з краіны навукова-тэхнічную эліту і вядзе Беларусь да дэіндустрыялізацыі й аграрызацыі. Цяпер ён хоча праз АБСЭ вырашыць сацыяльна-эканамічныя праблемы, г.зн. выратавацца. Ці ж павінен дэмакратычны Захад дапамагаць "апошняму дыктатару Эўропы"? Перадапошняму — Мілошавічу — ён не дапамагаў. І слушна рабіў.

**Анатоль Сідарэвіч**

# Пажар

Працяг са старонкі 1.



Абы рыба

Нашкодзіў замку ня толькі пажар, але й ягоная ліквідацыя. Супрацоўнікі МНС працягвалі заліваць будынак вадой нават калі агонь згас, каб не засталося дзе схаваных агмянёў. Вільгаць можа зашкодзіць фрэскам на столі й паркетнай падлозе. Апрача таго, драўляныя перакрыцьці набрынялі амаль трыма тонамі вады, ад чаго існуе пагроза абвалу.

Зранку ў замку працавалі аж 2 сьледчыя групы МУС. Прычынай пажару, паводле афіцыйнае вэрсіі, сталася нядбальства будаўнікоў, якія рыхтуюць замак да рэстаўрацыі. Рабочыя адагравалі замерзлыя водаправодныя трубы з дапамогай адкрытага агню (машынкай ці газавай гарэлкай).

У першай палове дня на месца пажару прыбылі віцэ-прэм'ер Уладзімер Дражын і старшыня Менаблвыканкаму Мікалай Дамашкевіч. У.Дражын, былы кіраўнік Нясьвіскае адміністрацыі, узначаліў адмысловую камісію па расьсьледаваньні прычынаў узьнікненьня пажару і ацэнкі шкоды.

Нясьвіскі замак меркавалася ўлучыць у Сьпіс помнікаў сусьветнае культуры. Цяпер можна чакаць нават кадравых перастановак: розгалас ад пажару ў Нясьвіжы — на ўвесь сьвет. Ганьба вялікая: Нясьвіж у нас адзін. Хтосьці павінен адказаць.

Эколяг Валеры Дранчук, які нарадзіўся недалёка ад "некаранаванай сталіцы", лічыць галоўнай прычынай пажару саму рэстаўрацыю: "Гэта толькі першы званок, зьвязаны з гэтай "вялацякучай рэстаўрацыяй". Інвэставаць у Нясьвіскі замак хацелі б палякі, чэхі ды літоўцы. Але такая нашая нядбайнасьць да помніка сусьветнай значнасьці

# Б упала, Н прапала, застаецца толькі Ф

**БНФ рыхтуецца да выбараў у мясцовыя саветы. Аб гэтым было абвешчана на нядаўнім Сойме. Гарадзенская арганізацыя БНФ падзяляе погляды менскіх кіраўнікоў: адразу выйдзем з гульні, калі прэзыдэнт захоча сумясьціць выбары з рэфэрэндумам па наданьні яму права бестэрміновага кіраваньня Беларусяй.**

На інтэрнэт-старонках зьявіліся прозьвішчы магчымых кандыдатаў у дэпутаты. Сярод іншых — Сяргей Мальчык, кандыдат мэдычных навук, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі БНФ, і Алесь Астроўскі, доктар мэдычных навук, прафэсар Гарадзенскага мэдунівэрсытэту. Яны не абвяргаюць інфармацыі пра сваё вылучэньне. Хоць першы кажа, што яшчэ канчаткова ня вырашыў, а для другога выбарчая кампанія — "магчымасьць весьці прапагандысцкую работу".

Можна зразумець іх прыхаваную трывогу за вынікі выбараў. Ніхто з гарадзенскіх апазыцыянэраў ня трапіў ні ў абласную, ні ў гарадзкую камісіі. Афіцыйнае тлумачэньне — спазьніліся з падачай пратаколаў.

Паводле С.Мальчыка, прадстаўнікі БНФ будуць вылучаныя кандыдатамі ў дэпутаты па ўсіх 30 выбарчых акругах Горадні. Чым выкліканая раптоўная неабходнасьць "прыкрываць" акругі? Няма згоды зь іншымі партыямі, грамадзкімі аб'яднаньнямі, незалежнымі прафсаюзамі, прадпрымальнікамі. Апошнія ўвогуле адмовіліся ад дыялёгу — свае акругі не саступаюць нікому.

Самаўпэўненасьць прадпрымальнікаў сьведчыць аб іх палітычнай недальнабачнасьці. Любы суперпік аддзягне частку галасоў на сябе, і камэрсанту ня хопіць для перамогі роўна столькі, колькі набяруць людзі, зь якімі ён цяпер ня хоча гаварыць. Дый хто сказаў, што прадпрымальнікі — рэальная сіла? Чаго яны дамагліся забастоўкамі? Падаткі ўсё адно сплачаныя. А перамовамі з "вэртыкальлю"? Яна і не на такое пойдзе, каб адцягнуць час. А пасьля кіраўнік дзяржавы скажа з тэлеэкрану: вось яны — гэтыя крывапіўцы-прадпрымальнікі. Усё ім мала, зазіраюць у тваё, наша, кішэні.Ату іх!

С.Мальчык і А.Астроўскі разумеюць цану сваёй паразы на мясцовых выбарах. Моцна пацерпіць іх асабістая аўтарытэт і аўтарытэт БНФ. А ўлада будзе мець падставу сказаць: "Апазыцыянэры ўзялі ўдзел у выбарах нароўні з кандыдатамі ад КПБ, ЛДПБ, працоўных калектываў. А што не абралі — дык гэткая, значыць, іх вага ў грамадзтве".

Нікому ня будзе справы, зь якой мэтай ішоў на выбары апазыцыянэр — агітаваць ці песьні сьпяваць. Прозьвішча ў бюлетэні стаіць — значыць, кандыдат. Прайграў — твае праблемы.

Дый, каб "весьці прапагандысцкую работу", не абавязкова чакаць выбараў. І не абавязкова вылучацца кандыдатам. У Канстытуцыі й Выбарчым кодэксе напісана, што гэта права любога грамадзяніна.

**Антон Лабовіч, Горадня**

# у Нясьвіжы

можа надоўга адбіць у іх ахвоту ўкладаць грошы.

Гісторык культуры Адам Мальдзіс мяркуе, што паспрыяць захаваньню замка мусіла б грамадзкасьць: "У 90-я быў створаны фонд "Нясьвіж", на чале якога стаяў Антоні Радзівіл, а ўсімі справамі займаўся Ўладзімер Гілеп, цяперашні кіраўнік Беларускага фонду культуры. Калі б можна было аднавіць дзейнасьць гэтага фонду, калі б у замку дзяжурылі валанцёры, пажару б ня здарылася".

**Аркадзь Шанскі**



## тыдзень нашага жыцьця

### Перакрыюць яшчэ два расейскія каналы

**Паводле нашай інфармацыі з Адміністрацыі прэзыдэнта, Беларусь хацела б перакрыць вяшчаньне тэлеканалаў *"Россия"* і *"Культура"*. Гэты праект ужо абмяркоўваецца на самым высокім узроўні. На хвалі РТР мае перайсьці СТВ.**

Такое новаўвядзеньне дазволіла б Беларусі узмацніць уласную інфармацыйную прастору. А "стварыць" новы тэлеканал на базе расейскага, маючы досьвед АНТ, ня так і цяжка.

Аднак ці наважыцца Менск закрыць афіцыйны расейскі канал *"Россия"*? Першы намесьнік гендырэктара СТВ Уладзімер Шпітальнікаў кажа, што выцясьненьне *"России"* — для СТВ не самамэта: "Мы мяркуем выходзіць на больш шырокую аўдыторыю, але для гэтага ёсьць перадатчыкі, якія цяпер не задзейнічаныя".

24 студзеня пасьля сустрэчы з А.Лукашэнкам кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў заявіў пра магчымасьць адкрыцьця тэлеканалу "Спадчына", які будзе мець культурна-адукацыйнае скіраванасьць.

### Саламяны Бэтлеем

**Да сьвята Божага Нараджэньня мастак Алесь Пушкін аздобіў менскі касьцёл Сьв.Яна Хрысьціцеля.** Згодна з задумай, бажніца набыла выгляд Бэтлеемскае стайні, дзе нарадзіўся Ісус: падлога высланая сенам, на сьценах і алтарнай частцы — стылізаваныя анёлы ды калядныя зоркі з саломы. Са столі зьвісаюць саламяныя павукі. Упрыгожаньні зрабілі наведнікі мастацкай студыі "Рагнеда" пад кіраўніцтвам Валянціны Лойкі. Ксёндз Ігар Лашук і парафіяне былі задаволеныя.

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### Арган з-пад Мюнхена

**А ў берасьцейскім Крыжаўзьвіжанскім касьцёле напярэдадні Раства зьявіўся арган.** Ксёндз-біскуп Казімер Велікаселец знайшоў "сьпісаны" інструмэнт для свайго храму аж пад Мюнхенам. Арган ужо сабралі й усталявалі. Адна бяда — у Берасьці няма свайго арганіста. Дык граюць пакуль менскія або гарадзенскія.

### Дарога праз Курапаты

**23 сьнежня Беларускі ПЭН-цэнтар зладзіў у менскім Палацы мастацтваў прэзэнтацыю кнігі рэпартажаў "Радыё Свабода" "Дарога праз Курапаты".** Імпрэза трансьлявалася на "Свабодзе" ў жывым этэры. З Прагі да яго далучыўся Васіль Быкаў, які прывітаў абаронцаў Курапатаў. Навуковая рада Камітэту аховы гісторыка-культурнай спадчыны й рэстаўрацыі пакуль не прымае да разгляду праект стварэньня ахоўных зонаў у Курапатах. Навуковая кіраўніца Курапацкага мэмарыялу Мая Кляшторная лічыць, што асноўная праблема ў тым, што прадпрыемства "Вігэўрабуд" пляную збудаваць блізу Курапатаў катэджы. Калі праект ахоўных зонаў будзе зацьверджаны, гэтае будаўніцтва зробіцца немагчымым. **На фота:** віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-Цэнтру Валянцін Тарас.

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### Замяталіны на базе

**База зьвестак з тэлефонамі кліентаў кампаніі "Velcom" таемным чынам апынулася ў Інтэрнэцэ на адрасе http://alex.wapinfo.org/velcom/,** хоць кампанія гарантавала поўную канфідэнцыйнасьць. Уладальнік скандальнага сайту сьцьвярджае, што знайшоў базу ў Сеціве, дзе яе прапаноўвалі за 20 даляраў. Аднак нумароў вышэйшых беларускіх урадоўцаў там няма. У базе ажно сем Аляксандраў Лукашэнкаў — а ўсё ня тыя. Пяцьразоў сустракаецца прозьвішча "Замяталін". Што праўда, Уладзімер Пятровіч сярод іх толькі адзін. А вось Дзянісы Ўладзімеравічы — аж тры. Прынамсі, столькі тэлефонных нумароў стаіць побач з гэтым імем.

**Б.Т.**

---

**Валеры Булгакаў**

# Новы год незалежнасьці

**2002 год не запомніцца беларусам яскравымі палітычнымі падзеямі. Ён быў напоўнены шэрай палітычнай руцінай. Праўрадавыя і прадэмакратычныя палітыкі займаліся звыклай беларускай палітыкай — кулюарнай, калідорнай, а мо нават паддывановай. Палітычныя скандалы не былі надта гучныя, а кадравыя перастаноўкі — асабліва запамінальныя. Замяталін сядзіць у кадравым рэзэрве.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### Улады ініцыявалі, дэмакраты рэагавалі

Як і мелася быць, лукашэнкаўцы сёлета разьвівалі свой посьпех, дасягнуты на леташніх прэзыдэнцкіх выбарах. 2002 год складаецца зь іх тактычных посьпехаў — пад іх націскам абрынулася місія АБСЭ ў Беларусі, быў зламаны хрыбет Фэдэрацыі прафсаюзаў беларускай, хоць пара яе былых праваднроў дагэтуль працягваюць геройчны супраціў у глыбокім тыле ворага, ім удалося зацугляць цэнтральную прафсаюзную прэсу, сагнаць беларускіх пісьменьнікаў у калектыўную гаспадарку новага тыпу — літаратурна-мастацкі холдынг "Літаратура і мастацтва", выслаць Барыса Нямцова з краіны, строга папярэдзіць лідэра АГП Анатоля Лябедзьку аб недапушчальнасьці проціпраўных дзеяньняў і, нарэшце, пасадзіць сябра БНФ "Адраджэньне" Віктара Івашкевіча ў турму. Так што ўнутрыпалітычная сытуацыя ў краіне адзначалася вялікай прадказальнасьцю. Улады ініцыявалі палітычныя працэсы, дэмакратычныя сілы злосна рэагавалі на іх. Апрача гэтага, нявывезеныя на хімію дэмлідэры ахвотна выяжджалі за межы краіны, цэлячы асабліва ў Вашынгтон і Бэрлін (Варшава для многіх зь іх — ужо пройдзены этап), і там шырылі праўду пра Беларусь. Відаць, прынамсі з турыстычнымі ўражаньнямі ў іх усё ў парадку.

Вынікам году трэба лічыць і тое, што сярод палітычных сілаў дэмакратычнай "несыстэмнай" апазыцыі не зьявілася новых постацяў. Затое беларускаму грамадзтву запомніліся новыя аблічы новай "сыстэмнай" апазыцыі ў палаце прадстаўнікоў: Уладзімера Парфяновіча, Валер'я Фралова і іншых таварышаў.

### Інтэграцыя б'ецца ў ліхаманцы

Канфуз чакаў улады ў вонкавай палітыцы. 2002 г. адзначыўся рэзкім пагаршэньнем адносінаў ці то Беларусі, ці то лукашэнкаўскага рэжыму з Расіяй. Загаварылі пра небясьпеку "ізаляцыі" краіны, пачалі намякаць, што Ўладзімеру Пуціну наш прэзыдэнт стаў асабіста ня мілы. Аднак тлумачыць расійска-беларускі канфлікт асабістымі непаразуменьнямі двух прэзыдэнтаў — значыць сьвядома спрашчаць вастрыню справы. Прычына рознагалосьсяў мае глыбейшую прыроду.

Пуцінская адміністрацыя змагла дабіцца таго, што было не пад сілу яе папярэдніцы, — зьменшыць палітычныя ўплывы і абмежаваць лабісцкія рэсурсы палітыкаў "патрыятычнай арыентацыі" (камуністаў у спалучэньні з гаспадарнікамі яшчэ савецкага гарту), якія традыцыйна адстойвалі інтарэсы дзяржаўнага сэктару расійскай прамысловасьці, асабліва ВПК. Акурат пры прапагандысцкай падтрымцы палітыкаў гэтага лягеру (на цэнтральным узроўні — Селязьнёва, Строева, Падберозкіна і інш., на рэгіянальным — Тулеева, Кандраценкі, Лужкова і г.д.) і праводзілася ў жыцьцё Лукашэнкава праграма інтэграцыі, якая найбольш пасьпяхова йшла ў тых эканамічных сэктарах, дзе яшчэ недастаткова замацаваліся рынкавыя адносіны. Палітычны крах расійскіх нацыянал-патрыётаў, як і трэба было чакаць, пазбавіў Лукашэнку надзейнага пляцдарму на расійскай палітычнай сцэне, рэзка зьменшыў яго палітычны капітал на расійскім палітычным рынку. Цяпер за эканамічную і палітычную падтрымку Беларусі з боку Расіі давядзецца плаціць допускам у краіну буйнога расійскага капіталу, за якім стаяць алігархі, чые інтарэсы на палітычным узроўні лабіруе не Зюганаў з Купцовым, а зьненавіджаны Нямцоў з Хакадамай і чыё разгортваньне ў краіне ў будучыні створыць для рэжыму яшчэ аднаго надзвычай няўручнага палітычнага актора.

Таму зь лета саюзная дзяржава Беларусі і Расіі б'ецца ў ліхаманцы і мармыча немавед што. То крычыць, то плача. А ўсё таму, што няма каму цяпер у Маскве заступіцца за Лукашэнку.

### Тылу больш няма

Зьявіліся сымптомы ўсё большага недаверу беларускага кіраўніцтва да Расіі. Сьпярша афіцыйны Менск дамогся павелічэньня свайго інфармацыйнага сувэрэнітэту, запусьціўшы другі агульнанацыянальны тэлеканал. Лукашэнка з паплечнікамі больш не разьлічваюць на тое, што расійскія электронныя СМІ будуць ім спрыяць ці, прынамсі, захоўваць нэўтралітэт у лёсавызначальным для краіны моманты. У кароткатэрміновай і сярэднетэрміновай пэрспэктыве далейшая "сувэрэнізацыя" рынку электронных СМІ дазволіць уладам без асаблівага высілку дамагацца патрэбнага для сябе выніку падчас рознага кшталту рэфэрэндумаў, мясцовых і цэнтральных выбараў і г.д.

З новай сілай недавер да Расіі ці нават адчужэньне ад яе праявілася зусім нядаўна, калі сямі найвышэйшым беларускім урадоўцам быў забаронены ўезд у краіны Эўразьвязу і ЗША. Усе чакалі, што прэзыдэнт Лукашэнка адкажа на гэты крок чарговай порцыяй праклёнаў і пагрозаў. Але замест гэтага людзі пачулі стрыманую рэакцыю міністра замежных справаў Хвастова, які выказаў зацікаўленасьць у канструктыўным дыялёгу з урадамі заходніх краін. Карацей, надзейнага расейскага тылу больш няма, казырацць звычнымі козырамі накшталт трохсоттысячнай вайсковай беларуска-расійскай групоўкі або ракетаў "Тополь-М" пад Шчучынам больш не выпадае, таму стратэгічнай зброяй рэжыму робіцца азіяцкія нелегалы ў сумежных з Польшчай, Літвой і Латвіяй раёнах.

### Забыць пра Эўропу

І яшчэ дзьве рэчы, на якіх трэба завастрыць увагу. Перш-наперш — пэрспэктыва трэцяй кадэнцыі Лукашэнкі, пра якую ўсьцяж загаварылі пасьля яго верасьнёўскай прэс-канфэрэнцыі. Няма сумневу, што гэтая ідэя цяпер лунае ў калідорах прэзыдэнцкай адміністрацыі.

Калі ж Лукашэнка такі пойдзе на трэці тэрмін, гэта будзе азначаць, што ён зрабіў для сябе, *у сваім разуменьні*, няпросты маральна-этычны выбар: асудзіць краіну на міжнародную ізаляцыю, забясьпечыўшы наўзамен стабільнасьць грамадзка-палітычнай абстаноўкі і эфэктыўнасьць дзяржаўнага апарату. Гэты выбар будзе супярэчыць прынятым на Захадзе стандартам дэмакратыі і ня надта задаволіць цяперашнюю крамлёўскую адміністрацыю (цікава, што адразу пасьля таго, як сёлета ў беларуска-расійскіх адносінах выбухлі першыя скандалы, у Менску пайшла пагалоска: маўляў, Масква даведалася пра Лукашэнкаў плян пераабрацца на трэці тэрмін і так выказвае сваё нездавальненьне). Калі ён будзе ажыцьцёўлены, размовы пра тое, што Беларусь ёсьць часткай Эўропы ці, пагатоў, яе цэнтрам, нам усім трэба будзе на пэўны час спыніць.

І апошняе. Цэлы год несьціхана ішлі размовы пра неабходнасьць рэфармаваць беларускае грамадзтва. Зроблена ўладамі ў гэтым кірунку было мала. Рэформа жыльлёва-камунальнай сфэры абмежавалася зьменаю сыстэмы аплаты камунальных паслугаў, сыстэмы адукацыі — пераходам на дзесяцібальную сыстэму адзнак, сыстэмы аховы здароўя — павелічэньнем колькасьці платных паслугаў для насельніцтва, эканамічная, пад самы канец году, — спрашчэньнем парадку рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадараньня. Незалежнае беларускае грамадзтва, ці, інакшай кажучы, грамадзянская супольнасьць, сустрэла гэтыя паўзахады зь цікім абурэньнем, але ніякай сваёй канцэпцыі рэформаў усяму грамадзтву не прапанавала.

У новы 2003 год Беларусь уступае часткова эўрапейскай, часткова азіяцкай дзяржавай, насельніцтва якой складаецца з падданых былой вялікай імпэрыі і самасьвядомых грамадзянаў невялікай эўрапейскай краіны, найлепшы лёс для якой — жыць спакойным мястэчковым жыцьцём.

# Мы гэта перажылі

**СТУДЗЕНЬ**



2002 г. пачаўся з увядзеньня ў наяўнае абарачэньне валюты краінаў Эўразьвязу — эўра. Насуперак змрочным прагнозам, эўра ўпэўнена пратрымалася цэлы год, не даючы спуску даляру.

Беларусы атрымалі на пачатку студзеня добрую вестку — наша краіна далучылася да Канвэнцыі аб прызнаньні дакумэнтаў аб вышэйшай адукацыі ў эўрапейскім рэгіёне. Нашы дыплёмы атрымалі большую вагу.

На Каляды арыштаваны дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў. Яго вінавацяць у "нядбайнасьці й злоўжываньні службовым становішчам, што прынесла шкоду дзяржаве". Гучаць меркаваньні, што арышт быў папулісцкім ходам Лукашэнкі.

Япіскап Іван (Хама), гадаванец Філарэта, стаў вікарным япіскапам Барысаўскім, а за пару месяцаў перасеў на багаты Берасьцейска-Кобрынскі пасад

24 студзеня ў італьянскім Асызы зьбіраюцца Папа, прадстаўнікі ўсіх хрысьціянскіх канфэсіяў і 11 нехрысьціянскіх рэлігіяў. Разам яны моляцца за мір.

**ЛЮТЫ**

Ад 8 да 24 лютага ў амэрыканскім Солт-Лэйк-Сыты адбываюцца XIX Алімпійскія гульні. У камандным заліку Беларусь займае 19 месца.

Урад спрабуе эканоміць грошы на вайскоўцах. Ліквідуецца полацкая 350-я брыгада мабільных сілаў, а таксама яе выдатная вайсковая база ў Баравусе.

У сярэдзіне месяца зьяўляюцца першыя знакі пахаладаньня ў беларуска-расейскіх стасунках. А.Лукашэнка заяўляе журналістам: "Нераўнапраўнага Саюзу ня будзе. Чаму мы павінны рабіць так, як робіць Расея?".

**САКАВІК**

Нешматлікую дэманстрацыю на Дзень Волі брутальна разганяе міліцыя. Вынік: многія зьбітыя, 59 чалавек затрыманыя, зь іх 9 непаўналетніх.

На сьвітанку Дня Волі на свабоду выходзіць Андрэй Клімаў, прадпрымальнік і дэпутат Вярхоўнага Савету, які адседзеў 4 гады і вызваліўся па зьмякчэньні прысуду.

30 сакавіка — парлямэнцкія выбары ва Ўкраіне. Перамагае правацэнтрысцкі блёк "Наша Ўкраіна" з апанэнтам прэзыдэнта Кучмы, былым прэм'ерам Віктарам Ючшанкам на чале.

**КРАСАВІК**

Скандалы ў Каталіцкім Касьцёле. Супраць некаторых яго прадстаўнікоў высунутыя абвінавачаньні ў сэксуальных злачынствах. Папу нялёгка выпраўляць становішча, дый здароўе яго пагаршаецца. У красавіку Папа нават адмовіўся ад удзелу ў многіх царкоўных мерапрыемствах. Ня дзіва: у траўні Яну Паўлу спаўняецца 82 гады.

Беларуская ўлада спрабуе пазбыцца місіі АБСЭ. Афіцыйны Менск не дае візаў супрацоўнікам місіі і не акрэдытуе новых работнікаў КНГ. 15 красавіка зьехаць зь Беларусі мусіць часовы кіраўнік місіі Мішэль Рывалье.

16 красавіка галяндзкі кабінэт міністраў у поўным складзе ідзе ў адстаўку. Гэта сталася вынікам грамадзкага рэзанансу, выклíканага абвінавачаньнем, што Галяндыя вінаватая ў разьні, учыненай сэрбамі ў 1995 г. у Срэбраніцы.

21 красавіка на парлямэнцкіх выбарах у Францыі нечаканага посьпеху дасягае крайне правы палітык Лё Пэн. Процістаіць яму дзейны прэзыдэнт Шырак. Гэтае процістаяньне ператварае Шырака ў нацыянальнага героя — ён атрымлівае ў другім туры 82% галасоў і перамагае Лё Пэна.

**ТРАВЕНЬ**

Паводле сацыялягічных апытаньняў НІСЭПД, рэйтынг Лукашэнкі падае да 30%.

27 траўня грузінскі спэцназ і рэйнджэры ЗША пачынаюць сумесныя манэўры. Беларускія вайскоўцы практыкуюцца адны. Напрыканцы месяца пад Барысавам пачынаюцца вучэньні "Бярэзіна-2002" Паўночна-Заходняга апэратыўнага камандаваньня.

Рада нацыянальнай бясьпекі й абароны Ўкраіны заяўляе аб імкненьні краіны ўступіць у NATO. Праз пару дзён на сустрэчы з Кучмам у Чарнігаве Лукашэнка прызнае права Кіева ўступіць у блёк і кажа пра магчымасьць "адпаведнага кроку з боку Беларусі".

**ЧЭРВЕНЬ**

У Карэі й Японіі адбываецца футбольны мундыяль. БТ спадзявалася "скрасьці карцінку" на якім іншым канале — ня выйшла. Нарэшце правы на трансьляцыю ў "Кірх-Мэдыя" купляюць. Немцы ставяць умову — камэнтаваць пабеларуску. Уся краіна сьмяецца з калечанай беларушчыны навіцкіх.



Вучэньні "Бярэзіна": сёлета мантамі было няясна, ва Ўсходзе ці ў Захадзе бачыць галоўную небясьпеку кіраўніцтва краіны

13 чэрвеня "Ітэра" ўдвая зьмяншае пастаўкі газу ў Беларусь і патрабуе ад Менску сплаціць пазыкі. У той жа дзень ЗША афіцыйна выходзяць з дамовы аб процірaкетнай абароне 1972 г. Расеі застаецца толькі "выказваць шкадаваньне".



Пуцін на сустрэчы зь лекарамі кажа, што саюзу Беларусі й Расеі ня будзе. Ён фактычна прапануе Беларусі стаць расейскай губэрняй. Гучыць знакаміты пасаж "пра мухі і катлеты". У адказ 18 чэрвеня Лукашэнка перасьцерагае: "Ніякім Паўночна-Заходнім краем мы ня будзем!"

Сканчаецца суд над журналістамі гарадзенскай "Пагоні" Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам. Маркевічу даюць 2,5, Мажэйку — 2 гады "хіміі". Суд прыцягнуў увагу міжнароднай грамадзкасьці, але рэжым на тое не зважае. 25 чэрвеня на частотах ОРТ пачынае вяшчаць Агульнанацыянальнае тэлебачаньне.




Лета з футболам

**ЛІПЕНЬ**

16 ліпеня ўлады бяруць пад кантроль прафсаюзы. Старшынём ФПБ замест Франца Вітка робіцца Леанід Козік.

Хоць увогуле ліпень запомніўся ня гэтым, а нечуванай за апошнія дзесяць гадоў сьпякотай. Віцебшчына перажыла зьмяіную навалу — гадзюкі ад гарачыні павыпаўзалі з нораў. Колішні польскі прэзыдэнт Валенса мусіў праз сьпякоту зголіць свае знакамітыя вусы.

**ЖНІВЕНЬ**

У пачатку жніўня пачаўся расейска-грузінскі канфлікт. Пуцін абвінаваціў Шэварднадзэ ў падтрымцы чачэнскіх паўстанцаў, а грузіны Расею — што парушае іхны сувэрэнітэт і бамбардуе Панкіскую цясьніну.

14 жніўня Пуцін прапануе Лукашэнку альбо стварыць адзіную дзяржаву, альбо будаваць "аналяг Эўразьвязу". Лукашэнка абураецца.

У Сярэдняй Эўропе пры канцы жніўня пачаліся катастрафічныя паводкі, а ў Беларусі лета скончылася закрыцьцём "Свободных новостей".



Прыняцьцю гімну "Мы, беларусы" не зашкодзіла нават тое, што супраць выступілі Мая і Максім Клімковічы, дачка і ўнук — спадкаемцы аўтара

**ВЕРАСЕНЬ**

У школах і гімназіях уведзеная дзесяцібальная сыстэма і пяцідзёнка. Навучальны год падоўжаны да канца чэрвеня.

4 верасьня пад Крупкамі адбылася найбуйнейшая ў беларускай гісторыі аўтакатастрофа. Сутыкнулася 17 машынаў, загінула 10 чалавек.

6 верасьня Беларускі патрыятычны саюз моладзі і Беларускі саюз моладзі аб'ядналіся ў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Напярэдадні высьветлілася, што БПСМ разбазарыў грошай і маёмасьці на мільён даляраў.

У маскоўскіх газэтах *"Завтра"* і *"Советская Россия"* ды менскай *"Советской Белоруссии"* зьявілася стэнаграма тэлефоннай размовы Анатоля Лябедзькі з Барысам Нямцовым. А 16 верасьня галоўнаму рэдактару газэты "Рабочы" Віктару Івашкевічу за абразу прэзыдэнта вынесьлі прысуд — 2 гады "хіміі".



Алесь Пашкевіч, самы малады кіраўнік Саюзу пісьменьнікаў за ўсю гісторыю арганізацыі

18 верасьня — вялікая прэс-канфэрэнцыя Лукашэнкі. Лукашэнка адмаўляецца ад ролі "зьбіральніка славянскіх земляў".

22 верасьня ў Нямеччыне перамагаюць сацыял-дэмакраты й "зялёныя". Пры ўладзе застаецца Гергард Шродэр. А на зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў старшынём абіраюць 30-гадовага выкладчыка БДУ Алеся Пашкевіча.

Прыняты новы закон "Аб свабодзе веравызнаньня й рэлігійных арганізацыях", які ставіць Расейскую праваслаўную царкву ў прывілеяванае становішча.

**КАСТРЫЧНІК**

1 кастрычніка, падчас сустрэчы са старшынём Дзяржкамітэту памежных войскаў Аляксандрам Паўлоўскім, Лукашэнка пагражае Эўразьвязу: "Калі з 1 студзеня будучага году гэтыя выдаткі [на ахову мяжы] ня будуць кампэнсаваныя, мы ня зможам забясьпечыць бясьпеку Эўропы".

Пачынаецца збор ахвяраваньняў (часам прымусовы) на новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі.



Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка яшчэ ня ведаюць, што іхны лёс напаткае і Віктара Івашкевіча

23 кастрычніка зь Беларусі выганяюць Барыса Нямцова — "за ўмяшаньне ва ўнутраныя справы краіны". Гэты скандал губляе маштабнасьць на тле захопу чачэнцамі закладнікаў у маскоўскім тэатры на Дуброўцы. У выніку "вызваленьня" газам атручаныя ня менш за 130 чалавек.



У Маскве загінула і беларуска

**ЛІСТАПАД**

З 1 лістапада "Газпром" на 50% скарачае пастаўкі газу ў Беларусь. 6 сьнежня Лукашэнка называе дзеяньні "Газпрому" "беспрэцэдэнтнымі" і разважае, як Беларусі выйсьці з саюзнай дамовы. Прэм'ер Навіцкі тлумачыць, што беларускі ўрад... ня ведаў пра запазычанасьці.

У адстаўку сыходзіць старшыня КНР Цзян Цзэмінь. Адбываецца гэта ў рамках зьмены пакаленьняў і не выклікае пераменаў у кітайскай палітыцы.

У сярэдзіне лістапада Хусэйну ў апошні раз прапануюць пусьціць інспэктараў ААН на іракція вайсковыя аб'екты. Багдад паддаецца.

20—21 лістапада ў Празе адбываецца саміт *NATO*. Яго ахрысьцілі "анты-Ялтай": Літва, Латвія, Эстонія, Румынія, Баўгарыя, Славаччына й Славенія атрымалі запрашэньне далучыцца да блёку. Лукашэнка ўсімі спосабамі спрабуе трапіць на саміт, але візы не атрымлівае. 14 краінаў-сяброў ЭЗ абвяшчаюць, што ня пусьцяць на сваю тэрыторыю 8 вышэйшых чыноўнікаў беларускай дзяржавы, ЗША далучаюцца да іх.



Папа ў Беларусь пакуль не прыехаў

**СЬНЕЖАНЬ**

У Токіё "зьнікае" Пятро Краўчанка. Праз суткі яго знаходзяць, а праз два тыдні Краўчанка вяртаецца ў Беларусь, абяцаючы надрукаваць сэнсацыйныя мэмуары.

12—13 сьнежня — саміт Эўразьвязу ў Капэнгагене. Запрашэньне ў ЭЗ з 2004 г. атрымліваюць 10 краінаў Усходняй Эўропы. Эўропа прыйшла пад нашы дзьверы.



Інфляцыя склала ня менш за 30%.



Вахту ў Курапатах несла моладзь. Драматычная зіма скончылася пажарам у палатцы, падчас якога ледзь не згарэў Алесь Поклад. Ідучы насустрач патрабаваньням моладзі, улады збудавалі спэцыяльную падпорную сьцяну і падземны пераход да Курапатаў

**2002 год быў багаты ня толькі на падзеі сапраўды значныя, але і на тыя, што хацелі б здавацца такімі. Часам гэта былі сапраўдныя "мыльныя бурбалкі", якія гучна покаліся ад найменшага дотыку. Часам — заўважныя падзеі, якім нехта зь нейкімі мэтамі стараўся надаць аж празьмерную значнасьць. Самай грандыёзнай з глябальных "бурбалак" было летняе прароцтва пра канец сьвету — гэтым разам ад "астэроіда-забойцы". Пры канцы ліпеня зьявіліся паведамленьні са спасылкай на *NASA*, нібы да Зямлі кіруецца астэроід 2002 NT7, сутыкненьне якога з плянэтай выкліча гібель цэлых кантынэнтаў і зьменіць клімат. Адбыцца яно мусіла, паводле прагнозаў навукоўцаў, у 2019 г. Пазьней, аднак, прагноз быў скарэктаваны на 2060 г. альбо на "сьвятыя ніколі".**



# БЕССЭНСАЦЫІ

### Тунэль да Балтыкі

У ліпені прафэсар Літоўскай вайсковай акадэміі Альгімантас Амбразявічус прапанаваў сваё вырашэньне Калінінградзкае праблемы — падземны тунэль паміж Калінінградзкай вобласьцю й Беларусяй. Гэтую бязглуздзіцу пачалі абмяркоўваць як нешта сур'ёзнае.

### Папу ў Беларусь

А якая харошая была чутка пра магчымы прыезд Папы ў Беларусь! Сайт "Хартыі'97" са спасылкай на *"Associated Press"* паведаміў пра абмеркаваньне такой магчымасьці яшчэ 18 студзеня. Падчас папскага візыту ў Польшчу ўлетку гэтую ж чутку падхапіла *"Gazeta Wyborcza"*. Але папа пакуль так і не прыехаў. Праўда, А.Лукашэнка заявіў пра жаданьне арганізаваць сустрэчу Папы і патрыярха Маскоўскага ў Беларусі.

### Краўчанка не эміграваў

Не збылося ў 2002-м прароцтва наконт расколу Саюзу пісьменьнікаў, не адбыўся доўга адкладаны Сход навукоўцаў. Самая сьвежая неадбытая сэнсацыя — палітычная эміграцыя Пятра Краўчанкі. 1 сьнежня экс-пасол, як паведамілі расейскія тэлеканалы і пацьвердзіла беларускае МЗС, зьнік. Гнеўных камэнтароў было багата — нават прэс-сакратар КДБ Хведар Котаў выказаўся. Потым Пятро Краўчанка зьявіўся і патлумачыў: хвярэў, маўляў, ляжаў дома, цяпер зьбіраюся ў Беларусь...

### Дырэктарская апазыцыя

Самая гучная крымінальна-эканамічная падзея мінулага году — арышты дырэктараў буйных прадпрыемстваў. "Хапун" пачаўся яшчэ пры канцы 2001 г. 21 лістапада была заведзеная крымінальная справа на начальніка Беларускай чыгункі Віктара Рахманька, 22 лістапада — на дырэктара Менскага заводу халадзільнікаў "Атлянт" Леаніда Калугіна. В.Рахманька зьвінавацілі ў злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі і крадзяжах у асабліва буйных памерах. Л.Калугіна — у невяртаньні з-за мяжы валюты, незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасьці і злоўжываньні ўладай ды службовымі паўнамоцтвамі. 9 студзеня Л.Калугіна перавялі зь сьледчага ізалятару ў Рэспубліканскую псыхіятрычную лякарню ("Навінкі") для псыхоляга-псыхіятрычнай экспэртызы. 30 студзеня — вярнулі ў СІЗА, так і не агучыўшы вынікаў абсьледаваньня.



IREX-PROMEDIA

Краўчанка: многа няяснага шуму



IREX-PROMEDIA

Лявонаў: ці сапраўды ён уяўляў небясьпеку для рэжыму?

8 студзеня арыштавалі дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава. Яго зьнялі ў Воршы зь цягніка па дарозе ў Расею. Абвінавачаньне стандартнае — злоўжываньне ўладай, нядбайнасьць і хабарніцтва.

Гэтыя крымінальныя справы далі многім падставы меркаваць, што ў нас існуе "эканамічная апазыцыя" рэжыму Лукашэнкі і што менавіта гэтую апазыцыю пачалі вынішчаць. Асабліва ўпарта "палітычную базу" пад арышты дырэктараў (у прыватнасьці, М.Лявонава) падводзіла АГП і прарасейскае палітычнае лобі. Намэнклятуру ўпарта стараліся паказаць галоўнай сілай, здольнай супрацьстаяць Лукашэнку. Так, Васіль Шлындзікаў у інтэрвію радыё "Свабода" 10 студзеня заявіў: "Асноўнай прычынай ягонага арышту зьяўляецца палітычны чыньнік. Лявонаў па сваёй прыродзе лідэр, важак. І ўлады не маглі не зразумець, што калі гэты важак выставіць свае палітычныя прэтэнзіі, то людзі могуць за ім пайсьці". Падтрымаў яго і экс-міністар сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў: "Менавіта гаспадарчы актыў сёньня ўяўляе найбольшую пагрозу для ўлады".

Словам, вось яны, галоўныя барацьбіты супраць аўтарытарызму — дырэктары. Неяк незаўважна прайшло асьцярожнае выказваньне рэдактара газэты "Рабочы" Віктара Івашкевіча: "Лукашэнка можа бачыць патэнцыйную пагрозу ў апазыцыйных настроях намэнклятуры, але я скептычна стаўлюся да таго, што яна нешта здольная зрабіць".

Так і выйшла. Хоць М.Лявонава ў красавіку перавялі зь менскага ў жодзінскі сьледчы ізалятар, які славіцца сваімі жорсткімі ўмовамі; хоць была заведзеная крымінальная справа на прэзыдэнта "Белдзяржхарчпраму" Віктара Казеку (злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі і атрыманьне хабару); хоць быў звольнены кіраўнік Беларускага мэталюргічнага заводу Вадзім Філіпаў — дырэктарскі корпус і не зварухнуўся. Хіба што ў студзені зьявіўся асьцярожны зварот Міжнароднага клюбу дырэктараў у падтрымку М.Лявонава ды на самім Менскім трактарным тады ж прайшлі "акцыі ў падтрымку". Вось і ўсе вынікі "дырэктарскай апазыцыі"...

### Новы-стары гімн

У лютым 2002 г. Саўмін прыняў пастанову пра конкурс на стварэньне "галоўнай песьні" краіны. Згодна з умовамі, гімн мусіў быць напісаны па-беларуску і "сьцьвярджаць ідэю дзяржаўнасьці Беларусі, мець інтанацыйна-мэлядычную яснасьць, добра запамінацца, гучаць урачыста і ў рытме шэсьця". На конкурс у Мінкульт прыйшло больш за 100 варыянтаў. Шмат якія грунтаваліся на музыцы Н.Сакалоўскага. Новы-стары сьцяг і гэткі самы герб былі падказкай: навошта шукаць штосьці новае? Пагатоў што пры канцы 2001 г. новы гімн на старую музыку прыняла Расея, якая тады яшчэ была компасам для беларускага кіраўніцтва.

Спахапілася пасьля ўладнай ініцыятывы й дэмакратычная грамадзкасьць. Аргкамітэт па сьвяткаваньні Дня Волі распачаў альтэрнатыўнае галасаваньне. Перамагла песьня Равенскага на словы Арсеньневай "Магутны Божа", апярэдзіўшы такія варыянты, як "Пагоня", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "Радзіма мая дарагая" і інш.

Варыянты ж "афіцыйнага" дзяржаўнага гімну ўлады вырашылі выставіць на "ўсенароднае абмеркаваньне". Галасаваньне адбывалася праз тэлефон. Але дарма варыянт Леаніда Пранчака і Васіля Раінчыка "Красуй, Беларусь!" набраў больш за ўсё галасоў — камісія яго адхіліла. (Мо таму, што за Шушкевічам гэты варыянт сьпявалі з рэфрэнам "Жыве Беларусь!") Ва ўрадоўцаў была іншая лёгіка: больш за ўсё галасоў набрала музыка Н.Сакалоўскага (на яе ж былі прадстаўленыя тры варыянты), таму і выбіраць варта гімн з словамі на яе.

### Ня разам, дык МАЗам

Сэнсацыяй году называлі і адкрыцьцё Другога агульнанацыянальнага тэлеканалу. Гаворкі пра яго вяліся ад 1997 г. Навязьлівы слоган БТ "Першы нацыянальны тэлеканал" летась намуляў вушы: навошта абвяшчаць сябе першым, калі ты адзіны?!

Адкрыцьцё БТ-2 міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны яшчэ пры канцы студзеня прызначыў на травень. Адразу было вырашана, што новы тэлеканал перакрые частату аднаго з расейскіх — *ОРТ*, *РТР* або *НТВ*. На чыёй частаце будзе вяшчаць "БТ-2", на той момант яшчэ не было вядома, хаця перавага яўна аддавалася *ОРТ*, якое абяцала прадаваць свае праграмы па льготных цэнах.

У тым, што новы тэлеканал будзе гэткім жа дзяржаўным рупарам, як і "Першы нацыянальны", сумневаў не было. БТ-2 стваралася як закрытае акцыянэрнае таварыства, у якім "залатую акцыю" мусіла атрымаць дзяржава. А кіраваць створаным тэлеканалам быў прызначаны колішні кіраўнік БТ, а потым пасол Беларусі ў Румыніі Рыгор Кісель. На новы канал перайшлі вядомыя супрацоўнікі БТ Ягор Хрусталёў, Юры Казіятка і інш. На гэта народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка зазначыла: новая тэлевізія будзе толькі ў новай Беларусі.

19 сакавіка ў Менгарвыканкаме было зарэгістравана ЗАТ "АНТ" (Агульнанацыянальная тэлевізія), дзе 51% акцыяў прадпрыемства былі пад кантролем дзяржавы, 29% — "Беларусбанку", 20% — тэлекампаніі "ФІТ".

Аднак абяцанага беларускага тэлеканалу гледачы так і не пабачылі. Паўгадзінная ўстаўка "Нашыя навіны", якая адна і зьявілася напачатку, наўрад ці здольная была прэтэндаваць на ганарлівую назву другога агульнанацыянальнага тэлеканалу. Гэта хутчэй выглядала на нейкі рэгіянальны дадатак. "Злыя языкі" казалі, што Беларусь такім чынам можа адкрыць не адзін новы канал, а адразу некалькі: засталіся ж яшчэ "беспрыглядныя" расейскія тэлеканалы *НТВ*, *РТР*, *"Культура"*, якія трансьлююцца на Беларусь.

Тым часам АНТ разьвівалася і нават пачало "паказваць зубкі" гледачам. Так, 31 жніўня з праграмы быў зьняты фільм Паўла Шарамета "Дзікае паляваньне", які трансьлявала *ОРТ*. Матывацыя: фільм "скіраваны на раскол грамадзтва". Так лопнула яшчэ адна "мыльная бурбалка" — пра плюралізм тэлеканалаў.

**Аркадзь Шанскі**



IREX-PROMEDIA

...радасьці сьцяг!

# Нас стала меней

**Колькасьць насельніцтва Беларусі пасьля другой сусьветнай вайны ўвесь час расла. Аж да пачатку 90-х. Праўда, тэмпы росту пачалі зьніжацца яшчэ ў 70-я, калі натуральны прырост зьменшыўся ў параўнаньні з 50-мі ў два разы. 1992 г. быў апошнім годам з прыростам насельніцтва (ён склаў 11,3 тыс. чалавек). Пачынаючы з 1993 г. у нашай краіне назіраецца натуральная страта насельніцтва, якая прывяла да скарачэньня яго колькасьці на 3% (па маштабах — гэта калі б з карты зьнік такі горад, як Берасьце). У 2000 г. натуральная страта склала 41,2 тыс. чалавек, у 2001 г. — 48,2 тыс., а за першае паўгодзьдзе 2002 г. перавышэньне колькасьці памерлых над народжанымі склала 32,7 тысячы.**


IREX-PROMEDIA

Платны пад'езд да бясплатнай мэдыцыны. Шлягбаўм каля менскага раддому.

Гэткая самая праблема назіраецца і ў многіх заходніх краінах з высокім узроўнем жыцьця. Так, у параўнаньні з 1990 г., каэфіцыент натуральнага прыросту (прырост у разьліку на адну тысячу чалавек) зьменшыўся ў ЗША ад 7,9 да 5,8, у Канадзе — ад 8 да 4,8, у Францыі — ад 4,1 да 3,3, у Вялікабрытаніі — ад 2,8 да 1,6. У Нямеччыне, Італіі й Швэцыі сьмяротнасьць перавысіла нараджальнасьць, і каэфіцыент натуральнай страты ў 1999 г. быў роўны адпаведна -0,8, -0,4, -0,3.

Дасьледчыкі выявілі заканамернасьць: у краінах, дзе ўзровень сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця нізкі, большасьць насельніцтва непісьменная, нараджальнасьць вельмі высокая, а пасьля прагрэсіўных эканамічных пераўтварэньняў назіраецца яе зьніжэньне.

Такім чынам, нельга сьцьвярджаць, што прычыны падзеньня нараджальнасьці хаваюцца толькі ў эканамічнай нестабільнасьці.

Некаторыя эканамісты лічаць, што небясьпека ў дэмаграфічнай сфэры ўзьнікае пры ўзроўні сумарнага каэфіцыенту нараджальнасьці (сярэдняя колькасьць дзетак на адну сям'ю) ніжэй за 2,15. У Беларусі гэты каэфіцыент у апошнія гады складае каля 1,3. Паказнікі нараджальнасьці асабліва інтэнсіўна зьніжаюцца з 1989 г. У Беларусі сярэдняя колькасьць дзетак на сям'ю ў 1958 г. складала 2,8, у 1969 г. — 2,3, у 1978 г. — 2,1, у 1989 г. — 2. Дэмографы кажуць: калі захаваецца сёньняшні ўзровень нараджальнасьці, праз 50 гадоў насельніцтва Беларусі скароціцца ўдвая.

Скарачэньне нараджальнасьці ў нас часткова мае гістарычныя карані. Але да гэтага дадаецца і агульны стан экалёгіі, і крызыс эканомікі, і зьніжэньне якасьці дзяржаўнай аховы здароўя, і няўпэўненасьць насельніцтва ў заўтрашнім дні. Калі б ня гэтыя фактары, зьмены былі б не такімі істотнымі.

## Толькі "тэлефон даверу"

Павялічваюцца ў Беларусі паказнікі сьмяротнасьці насельніцтва. Рэзка пабольшала сьмерцяў ад хваробаў сыстэмы кровазвароту (54,6% усіх памерлых у 2001 г. і 55% — у першым паўгодзьдзі 2002 г.). У 1990 г. ад хваробаў сыстэмы кровазвароту памерлі 55735 чалавек, а ў 2000 г. — ужо 72401 чалавек (на 30% болей). У параўнаньні з 1990 г. у 2001 г. на 11% павялічылася сьмяротнасьць ад анкалягічных захворваньняў. На 58% пабольела самагубстваў — ад 2085 чалавек у 1990 г. да 3298 — у 2001 г.

Доля самагубстваў у агульнай колькасьці памерлых не выглядае высокай — у 2001 г. яна склала 2,4%, у першым паўгодзьдзі 2002 г. скарацілася на 0,1%. Але суіцыды — паказнік эмацыйнага і псыхічнага здароўя нацыі. Таму рост іх ліку — вельмі сур'ёзны сыгнал грамадзтву нават пры параўнальна невялікай колькасьці самагубцаў. Найбольш самазабойстваў прыпадае на групы ў веку 20—24, 50—59 і старэйшых за 70 гадоў.

Фактычна ўся работа па прафіляктыцы спробаў самагубстваў у краіне зводзіцца да пэрыядычных заклікаў у СМІ тэлефанаваць у службы псыхалягічнай падтрымкі. Але чалавек, які вырашыў пайсьці з жыцьця, гэтага рабіць ня будзе. Калі падлетак тэарэтычна (пры наяўнасьці ўважлівага і неабыякавага да яго пэдагога) мае магчымасьць атрымаць неабходную падтрымку ад школьнага псыхоляга, дык людзі сталага веку, інваліды (якія таксама складаюць групу рызыкі) такой магчымасьці пазбаўленыя, пакінутыя сам-насам з сваімі праблемамі.

## Чатыры бутэлькі ў месяц

Павялічваецца сьмяротнасьць ад выпадковых атручаньняў алькаголем — у 2001 г. на 5,6%, а ў першым паўгодзьдзі 2002 г. — на 9,9%, калі параўнаць з адпаведнымі пэрыядамі папярэдняга году. Паводле афіцыйных зьвестак, у Беларусі спажываецца 8,9 літра абсалютнага алькаголю ў год на кожнага жыхара (зьвесткі за 2001 г.), што адпавядае 22,25 літра гарэлкі. У месяц, такім чынам, выходзіць 1,85 літра на кожнага, зь немаўлятамі й хворымі ўключна. Дзеці ад нараджэньня і да 14 гадоў складаюць у нас 18,3% насельніцтва. Значыцца, *кожны* дарослы чалавек спажывае 2,1 літра гарэлкі ў месяц. І ў гэтыя падлікі яшчэ ня ўключаны алькаголь, выраблены "хатнімі гаспадаркамі". Прычым алькагалізм маладзее. Як прыклад можна прывесьці факт, што выходзіць за рамкі разуменьня: у адну зь менскіх больніцаў рэгулярна прывозяць шасьцігадовага хлопчыка ў стане крайняга алькагольнага ап'яненьня.

Дасьледаваньні паказваюць, што з школьнікаў у 9 клясе 2,6% п'юць 3—4 разы на месяц і часьцей, а ў 11 клясе — ужо 10%. Алькагалізацыя грамадзтва ў большай ступені зьвязана зь нізкай адказнасьцю насельніцтва за сваё здароўе, чым з сацыяльна-эканамічным становішчам краіны.

Пра стаўленьне нашага насельніцтва да свайго здароўя сьведчаць і такія зьвесткі Мінстату: кураць больш за 54% мужчынаў, старэйшых за 16 гадоў, і 48% жанчынаў. Прычым мужчыны выпальваюць у сярэднім 14, а жанчыны — 8 цыгарэт у дзень.

## Дзеці вайны і дзеці перабудовы

І гэта пры зьніжэньні сярэдняй працягласьці жыцьця. Згаданы паказьнік, пасьля інтэнсіўнага росту ад 38 гадоў у 1897 г. да 73 у 1968 г., стабілізаваўся ў пачатку 80-х, а пасьля пачаў зьніжацца і ў 2001 г. склаў 68,6 году. Прычым у 2001 г. у мужчынаў ён складаў у сярэднім 62,8 году, у жанчынаў — 74,5 году.

Паводле прагнозаў дэмографаў, праз некалькі гадоў колькасьць працаздольнага насельніцтва пачне рэзка скарачацца, бо на пэнсію выйдуць пакаленьні пасьляваенных гадоў, а працаздольнага ўзросту дасягне нешматлікае пакаленьне 90-х. Рост колькасьці людзей пэнсійнага веку павялічвае нагрузку на працаздольнае насельніцтва і патрабуе больших расходаў на сацыяльнае і пэнсійнае забесьпячэньне. Ужо сёньня на 1000 чалавек працаздольных ўзросту прыпадае больш за 700 непрацаздольных.

Сумная атрымліваецца пэрспэктыва. Усе спадзяваньні на "хвалевы" характар нараджальнасьці: спады заўжды чаргуюцца з "бэбі-бумамі". Мо і мы такога прычакаем. Не хацелася б толькі, каб ізноў — пасьля якой-небудзь вайны.

**Ганна Вернікоўская**

**Прырост насельніцтва ў Беларусі, у тыс. чал.**




**Нараджальнасьць і сьмяротнасьць у Беларусі за апошнія 11 гадоў**




---

## Каляднае пасланьне а.Аляксандра Надсана, апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў замежжа

Працяг са старонкі 1.

У некаторых дзяржавах улады хочуць панаваць нават над думкамі і душамі сваіх падуладных, і яны ня супраць выкарыстоўваць дзеля гэтага тых, хто лічыць сябе духоўнымі правадырамі і настаўнікамі народу. Сумна тое, што знаходзяцца духоўныя правадыры, гатовыя шукаць падтрымкі ў сьвецкай улады, каб утрымаць сваё становішча. У гэтым няма нічога новага. У часы Хрыста духоўныя праваднікі Ягонага народу шукалі дапамогі ў сьвецкай улады, каб укрыжаваць Яго. Яны не разумелі, як не разумеюць у наш дзень і іхнія пераемнікі, што ёсьць рэчы, дзе ўсялякі прымус бясьсільны. Прыгадаем словы гусьляра ў паэме Янкі Купалы "Курган":

Сілен, княжа, карац, галаву сілен зьняць,
Не скуеш толькі дум ланцугамі.

Сёньня мы глядзім зь непакоем на нашых дзетак і думаем, якая будучыня іх чакае. Хрыстос прыйшоў у сьвет як дзіцятка і працягваў рукі, каб знайсьці месца ў нашых сэрцах. Ён робіць гэта і ў наш час. Але дзьверы сэрца адчыняюцца толькі зьсярэдзіны. А "сэрца вашае, дзе скарб ваш" (*Мц 6:11*).

У гэты сьвяты дзень Нараджэньня Хрыстовага жадаю ўсім знайсьці свой скарб, які б стаўся асноваю лепшай будучыні для нашых дзетак, для нашай краіны і для ўсяго сьвету.

Хай Князь супакою, Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос, які дзеля нас нарадзіўся ў Бэтлееме, блаславіць вас і будзе заўсёды з вамі.

**Каляды 2002 г.**
**а.Аляксандар Надсан,**
**апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў замежжа**

### Затрымалі рэкеціра

**Звыш 300 прыватных таксовак працуюць у Воршы.** Іх паслугі карыстаюцца сярод месьцічаў вялікім попытам, бо каштуе адна паездка ўдзень 250—300 рублёў. Уладальнікі "маршрутак" маюць неблагія прыбыткі. Гэтым выпрашыў скарыстацца адзін крымінальнік. Ён вымагаў у бізнэсоўцаў па 10—15 даляраў штомесяц. Але разгарнуцца рэкеціру не ўдалося. Цяпер яго чакае суд і новы турэмны тэрмін.

### Шалёны бультэр'ер

**У Воршы захварэў быў на шаленства бультэр'ер.** На вуліцы зь ім пачалі забаўляцца дзеці. Сабака забег у сярэднюю школу №16 і пакусаў двух хлопчыкаў. Настаўнікі выклікалі міліцыю і брыгаду па адлове бадзяжных жывёлінаў з спэцаўтабазы. Бультэр'ера забілі. Жыцьцю пакусаных дзяцей нічога не пагражае. Ім, а таксама яшчэ чатыром вучням, зрабілі вакцынацыю. Цяпер шукаюць гаспадароў сабакі й усіх, хто кантактаваў зь ім. За апошнія месяцы прышчэпкі супраць шаленства зробленыя 800 гаспадарскім сабакам.

### Даравальны тыдзень

**У аршанскай гарадзкой бібліятэцы імя Пушкіна існуе парадак, пры якім чытачы, што затрымалі ўзятыя кнігі даўжэй за вызначаны тэрмін, павінны плаціць штраф.** На Каляды кіраўніцтва бібліятэкі выпрашыла зладзіць "Даравальны тыдзень": у гэтыя сьнежаньскія дні вінаватым раскашэльвацца не давядзецца.

### Гандаль зброяй

**На чыгуначным вакзале Воршы перапыненая спроба продажу зброі.** У момант перадачы пісталета Макарава пакупніку быў затрыманы афіцэр зь Менску. Тавар каштаваў 150 даляраў. Гандляр арыштаваны.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

### Зноў аблупілі карову

**У сьцюдзёную сіверную ноч з пранізьлівым ветрам, калі, як кажуць, сабаку з хаты ня выжанеш, зламысьнікі скралі з кароўніку вёскі Дуброва** (Сьветлагорскі раён) спраўную карову і, не адводзячы далёка, асьвежавалі яе. Вартаўнік у гэты час быў п'яны — мо падсунулі гарэлку — і спаў далёка ад фэрмы. Прыяжджалі міліцыянты з сабакам, але той, дабегшы да шашы, згубіў сьлед. Калі ў Дуброве гавяды ні кралі, ніколі нікога не знаходзілі.

**Мікола Бусел, Дуброва**

### Калгасьнікі й бюджэтнікі

**Нямала былі засмучоныя дуброўскія калгасьнікі, калі ім аддалі толькі палову зробленых грошай.** Так, мой сусед, малады трактарыст Аляксандар, атрымаў трохі болей за 5 тыс. рублёў. Рэшту, маўляў, аддадуць потым. Начальства кажа, што грошай не хапае, бо бюджэтнікам падвысілі заробкі. Гэтае разьлічанае на легкаверных цёмных дурняў тлумачэньне даецца кожын раз, як калгасам няма чым плаціць. І нікому ў галаву ня прыйдзе параўнаць суму заробкаў настаўнікаў з сумай пэнсіяў 1200 пэнсіянэраў калгасу ды сумай запазычанасьцяў па заробках.

**Мікола Бусел, Дуброва**

### Шклоўская ГЭС

**Выпрашана збудаваць ГЭС на Дняпры, пад Шкловам.** Усяго на гэтай рацэ плянуецца паставіць пяць электравырабляльных аб'ектаў, здольных напалову задаволіць патрэбы Магілёўшчыны ў электрычнасьці. Цяпер на яе тэрыторыі тры дзейныя гідраэлектрастанцыі — у Быхаўскім, Круглянскім і Асіповіцкім раёнах. Яны выпрацоўваюць 1% патрэбнай вобласьці энэргіі.

**"Вячэрні Магілёў"**

### Бітва за гароды

**Кіраўніцтва бялыніцкага жыльлёва-камунальнага аддзелу пачало змаганьне з жыхарамі шматпавярховікаў, якія на пустках побач з дамамі зрабілі сабе гароды.** Праз раённую газэту ўладальнікам незаконна захопленых дзялянак прапанавалі да 10 сьнежня добраахвотна забраць тое, што ўяўляе для іх каштоўнасьць. Уладальнікі гародаў выказалі рашучы пратэст: жылкамгас няхай спачатку навядзе парадак у закладзеных ім жа зялёных зонах. Што да дзялянак, дык, кажуць людзі, ад іх толькі выгода. Па-першае, на гэтых тэрыторыях падтрымліваецца сякі-такі парадак — не расьце пустазельле. Па-другое, расьце гародніна.

### Недаплацілі за кроў

Ад пачатку году 275 бялыніцкіх донараў здалі 110 літраў крыві. За гэта райбольніца павінна заплаціць ім агулам 5483 тыс. рублёў. Але выплачана толькі 4.493.400 рублёў.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

### Нават шпількі падзялілі

**У Бабруйску ліквідавана фабрыка па вырабе і рамонце вопраткі з трыкатажу.** Абсталяваньне ды іншая маёмасьць, нават шпількі й гузікі, рашэньнем гарвыканкаму перайшлі іншым прадпрыемствам — фабрыкам "Элегант" ды "Міла".

**Віктар Качан, Бабруйск**

### Новая паліклініка

**У сьнежні прыняла першых пацыентаў новая быхаўская клініка.** У будынку размясьціліся таксама дзіцячая і жаночая кансультацыі, 3-і паверх аддадзены пад адміністрацыйныя памяшканьні. На першым ёсьць аптэчны і газэтны кіёскі, таксафон. Аднак у першы ж дзень працы клінікі пацыенты зьнесьлі дадому пару накрывак з унітазаў грамадзкай прыбіральні.

**Сяргей Ніканаў, Быхаў**

### Śmierć pa-baranavicku

**Naśmierć zabiła aŭtamabilem dyrektara Baranavickaha chlebazavodu Jaŭhena Hućku, jaki pierabiahaŭ vulicu ŭ niedazvolenym miescy, kala Paleskaha mostu.**

U svajoj vańnie patanuła 28-hadovaja baranavickaja kabieta. Daktary vyśvietlili, što padčas myćcia ŭ jaje abvastryłasia chvaroba serca.

### Zialonaja padśvietka

**Zialonuju padśvietku ŭstalavali na siońniašnim symbali Baranavič — viežy z hadzińnikam na płoščy Lenina.** Ciapier, kali pahladzieć uharu, adčuvaješ siabie jak u eŭrapiejskim horadzie.

### Lepšaje baranavickaje miasa

**Kiłbasa "Doktarskaja", rulet "Kaliadany", kanserva "Jałavičyna tušanaja" vyšejšaha hatunku,** jakija pradukuje Baranavicki miasakanservavy kambinat, atrymali dyplomy "Najlepšy pradukt 2002 h."

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

## Уцякла тыгрыца

IREX-PROMEDIA

**Ні сьвят ні Каляд няма супрацоўнікам Міністэрства па надзвычайных сытуацыях. 24 сьнежня ў менскім заапарку з клеткі зьбегла тыгрыца. Былі мабілізаваныя міліцыя, пажарныя. У зьвера некалькі разоў стрэлілі снатворным. Толькі пасьля гэтага "котка" зрабіла ласку — вярнулася ў клетку.**

кіно

## Рымскі легіянэр Беларус

**Кінапраект "Прыгоды Астэрыкса й Абэлікса" паводле знакамітых коміксаў і мультфільмаў задумваўся як своеасаблівы "эўрапейскі адказ Галівуду". Меркавалася, што фільм зь бюджэтам 50 млн. эўра пасуне амэрыканскія блякбастэры на сусьветных кінарынках. Прэм'ера першага фільму — "Астэрыкс і Абэлікс супраць Цэзара" — адбылася зь вялізнай помпай, але прэстыжу Галівуду не пашкодзіла зусім. Яшчэ менш шанцаў у другога фільму — "Астэрыкс і Абэлікс: місія Клеапатра", які выйшаў на кінаэкраны Менску.**

Сюжэт гэтай байкі немудрагелісты. Царыцы Клеапатры (Моніка Бэлючы, якая цягам усяго фільму зьмяняе экзатычныя строі на эратычныя і наадварот) раптоўна закарцела, каб Юлі Цэзар (комік Крыстыян Кляўе) прызнаў эгіпцянаў найлепшым народам у сьвеце. Царыца загадвае збудаваць супэрпалац за тры месяцы. Паколькі старажытнаэгіпэцкім дойлідам (зь якіх адзін разважае бы Дэйл Карнэгі, а ў другога толькі адна рука) задачка не па зубах, яны запрашаюць на дапамогу двух барбараў-галаў (Астэрыкса й Абэлікса), сабаку Ідэфікса і друіда Пэрынакса, якому невядома навошта спатрэбіліся манускрыпты Александрыйскай бібліятэкі. "Шабашнікі" выканалі пастаўленую задачу бліскуча: напаілі чароўным зельлем будаўнікоў, адламалі нос Сьфінксу (а мы, дурні, думалі, што гэта жаўнеры Напалеона зрабілі!), знайшлі выйсьце зь лябірынту піраміды, разграмілі рымскае войска. Пры гэтым ім рэгулярна трапляліся на шляху прыдуркаватыя піраты, якіх яны вымушаныя былі тапіць то ў моры, то ў Ніле.

Хапае ў фільме гэгаў — камічных трукаў, а таксама пародыйна-сатырычных дыялёгаў — прыблізна па адным на кожныя тры хвіліны экраннага часу. Ад амэрыканскіх камэдыяў у "Місіі" засвоена галоўнае — трэба высьмейваць і парадыяваць усё, што на слыху, і ўсё, што калісьці кімсьці было зьнята. І таму рымскія жаўнеры маюць імёны Беларус і Антывірус, а цэнтурыён Саплівус аддае загад страляць з катапультаў са словамі: "Імпэрыя наносіць удар у адказ!" Эгіпэцкія дойліды б'юцца паміж сабой у паветры, як кунг-фуісты, і размаўляюць па-кітайску, а прыдворны жывапісец малюе Клеапатру толькі ў профіль і асуджае мадэрністаў, якія ствараюць партрэты ў анфас.

Пакуль франка-італьянскі кінагумар дае фору беларускаму — у нашай камэдыі "Сьвежына з салютам" сюжэт круціцца вакол няўмельства паўцьвярозых вясковых мужыкоў закалоць сьвіньню.

**Ягор Конеў**

казкі сьнежнай краіны

## Блакітныя Каляды

Яна ў маім акне. Яна дакранаецца рукой да сьцяны, і вокны ў іншым пакоі заплываюць цемрай. Цёплай, сытнай каляднай цемрай, поўнай чаканьня і салодкіх мараў. Яна сыходзіць, апрануўшы чорнае футра, некуды туды, дзе разгортваецца ейнае ўласнае жыцьцё. А тым часам паверхам ніжэй яшчэ сьветла, і ўсьмешлівыя беларусікі гуляюцца ў амэрыканскія гульні. А іншая, гэткая ж, толькі бяз футра, пляскае ім у далоні і сьмяецца. Гэты садок глядзіць тварам на мой дом, адкуль мне сьмешна і крыху горка назіраць чужое дзяцінства, утульна накрытае сьнегам, з жоўтымі вачыма-вокнамі — аж пакуль ня прыйдуць бацькі і не паразьбіраюць сваіх хуліганаў па дамох. У гэтых дзяцей іншыя героі казак, праз два дзясяткі гадоў гэтыя маленькія дзяўчынкі і хлопчыкі ператворацца ва ўпэўненых прыгожых ярках жанчын і мужчын зь белай глянцавай скурай і чыстымі думкамі ў сваёй белай сьнежнай краіне на парозе чарговых Хрыстовых народзінаў.

Калядаў чакаеш заўсёды год. Хутка на вуліцах пачнеш бачыць удвая болей жывых ценяў, чым людзей, а, сярод ночы прачнуўшыся, заўважыш, што аблокі ў лiтаральным сэнсе носяцца па паверхні неба. Нашае такое стомленае ўласнай звычайнасьцю жыцьцё поўніць новыя пахі, дзіўныя гукі... Сьнег вальсуе ў марозным тлёне і набіваецца халоднай вадой за каўнер, а аднекуль здалёк набліжаецца зграя цудаў, якіх хопіць на ўсіх, хто верыць, між якіх ёсьць і адзін самы сапраўдны цуд спэцыяльна для Цябе...

Яны ўсе як хочуць, а я веру ў Сьвятога Міколу. Гэты Нехта асабліва пасуе да аблічча маёй краіны зь яе дзецьмі. Не застаецца трапятаньня ўсярэдзіне і спадзеву на жывы цуд, калі бачыш армію дзедамарозаў, герояў анэкдотаў з ватнымі барадамі і расчырванелымі цёцямі Сьнягуркамі, калі забеганыя фотамайстры просяць сфатаграфавацца зь дзядулем, можна нават выбраць зь якім. Не застаецца веры ў казачнае паходжаньне самога сьвята, калі бліскучы Санта Кляўс бярэ за руку гумовага хлопчыка ў якой-небудзь тэлевізійнай рэкляме. Нашыя дзеці не гумовыя. Яны ружовыя, зьмерзлыя, загуляныя ў сьнежкі й сьнегавікоў, ахрыплыя ад сьмеху на ветры, яны жывыя і дзікія — не такія, як на плакатах ці ў вітрынах. Ім трэба сапраўдная казка, ім трэба сапраўдная таямніца, той Сьвяты Мікола, які знойдзе сярод засьнежанага лесу іх дом, які не заблукае ў лябірынце іх менскага мікрараёну... Такі, каб яго ня трэба было бачыць, каб яго можна было адчуваць, чакаць, любіць і ўяўляць. Каб Каляды на самай справе рабіліся сапраўднымі: сьвяточнымі і сьвятымі.

Тваімі Калядамі.

**Тэда Лі**

**Год, які сыходзіць, быў багаты на спартовыя падзеі: Беларусь займела чатырохразовую чэмпіёнку сьвету й двухразовага Алімпійскага чэмпіёна, увайшла ў пяцёрку хакейных лідэраў сьвету, усталёўвала рэкорды й удзельнічала ў антыдопінгавых кампаніях, беларускіх спартоўцаў садзілі ў турму і шукалі з дапамогай ФБР.**



Шчасьлівы твар героя матчу Ўладзімера Копаця зьявіўся ў тысячах газэтаў

# Розныя рэкорды

### Алімпіяда

Выпраўляючы спартоўцаў у Солт-Лэйк-Сыты, Беларусь спадзявалася на традыцыйна моцных фрыстайлістаў, біятляністаў і лыжнікаў. Але магічная дата 20.02.2002 г. прынесла нашай хакейнай дружыне перамогу ў чвэрцьфінале. Нечаканы вынік прымусіў чырванець алімпійскіх чыноўнікаў, якія загадзя замовілі для хакеістаў квіткі на самалёт, не спадзеючыся на посьпех.

Іншы герой Алімпійскіх гульняў — фрыстайліст **Аляксей Грышын**, які прынёс першую й адзіную бронзу ў скарбонку нашай зборнай. Другому лідэру паветраных акрабатаў **Зьмітру Дашчынскаму** вельмі не пашэнціла: напярэдадні Алімпіяды ён атрымаў траўму і перажыў складаную апэрацыю. Нягледзячы на цяжкасьці, выступіў на гульнях, але мэдаль заваяваць ня здолеў.

### Допінг

Год прынёс адразу два гучныя выпадкі, зьвязаныя з ужываньнем допінгу. На Алімпіядзе ў пробе беларускай канькабежкі па шорт-трэку **Юліі Паўловіч** быў знойдзены 19-нарандрастэрон. Беларускі бок запратэставаў — маўляў, пробу бралі з парушэньнямі. Перад паўторнай экспэртызай спартоўка з маці-трэнэркай зьнікла з Алімпійскай вёскі. Да пошуку беларусак ужо гатовае было далучыцца ФБР, калі жанчыны нечакана зьявіліся й заявілі пра гатовасьць прайсьці паўторны тэст. Але МАК адхіліў Паўловіч ад далейшых спаборніцтваў. Забароненае рэчыва трапіла ў арганізм Юліі праз няякасны прэпарат іназін, выраблены ў Расеі. Экспэртыза навукова-тэхнічнага цэнтру Акадэміі навук ня здольная належным чынам правяраць лекі на наяўнасьць анаболікаў і гармонаў, таму й ня ўзьнікла трывогаў наконт магчымых наступстваў ужываньня іназіну.

Іншай ахвярай допінгавых праверак стаўся й лідэр біятляністаў **Вадзім Сашурын**. У гісторыі Міжнароднай фэдэрацыі біятлёну гэта першы скандал такога кшталту. Пасьля таго як тэсты аказаліся пазытыўныя, Сашурын прызнаў сваю віну й выказаў гатовасьць браць удзел у антыдопінгавых кампаніях МФБ. Добраахвотнае прызнаньне зьмяншае пакараньне, таму да нашай нацыянальнай фэдэрацыі ды ейнага доктара санкцыі не былі ўжытыя. Сашурына дыскваліфікавалі на 15 месяцаў. У размове зь беларускімі журналістамі ён тлумачыў зьяўленьне нандралёну ў сваім арганізме неабходнасьцю лячэньня артрыту. Маўляў, каб пазбыцца хваробы, спартовец прыняў лекі, якія ўтрымлівалі прэпарат, спадзеючыся, што да пачатку спаборніцтваў яны распусьцяцца. Ад чаго ж бярэцца артрыт у спартоўцаў?..

### Імігранты ў Беларусі

Сапраўдnай сэнсацыяй стала жаданьне чатырохразовай чэмпіёнкі сьвету ўкраінкі **Алены Зубрылавай** і двухразовага Алімпійскага чэмпіёна расейца **Ўладзімера Драчова** выступаць за нашу краіну. Рашэньне Зубрылавай сталася шокам для ўкраінцаў. Падзея доўга абмяркоўвалася ва ўкраінскай прэсе. Сама А.Зубрылава тлумачыць свой учынак агульнай сытуацыяй ва ўкраінскім біятлёне, калі спартоўцы апынаюцца закладнікамі гульняў вышэйшых чыноўнікаў.

Драчоў жа ўжо два гады не выступаў на буйных сусьветных спаборніцтвах праз канфлікт з кіраўніцтвам. "Мая каманда здрадзіла мне", — мяркуе ён. Асноўная матывацыя ягонага зьяўленьня ў беларускай зборнай — жаданьне працягнуць спартовую кар'еру ў якасьці інструктара альбо проста аднаго з удзельнікаў асноўнага квартэту.

### Скандал году

У 2002-м падатковыя органы раптам зацікавіліся прыбыткамі беларускіх спартоўцаў, якія выступаюць за мяжой. Некаторых зь іх спрабавалі нават выклікаць у раённыя падатковыя інспэкцыі ды папярэджваць пра крымінальную адказнасьць за ўтойваньне прыбытку. Першай "ахвярай" стаў квазімільянэр **Макс Мірны**. У этэры тэлеканалу СТВ начальнік аддзелу падатковай Ленінскага раёну Менску Мікалай Немцаў казаў, што недаваньне дэклярацыі аб даходах "кідае цень" на славутага тэнісіста. Інспэктары нават меліся патрабаваць ад МЗС не пускаць Макса за мяжу. Але да такіх мераў справа не дайшла. З падобнымі праблемамі сутыкнуліся й футбалісты Сяргей Штанюк і Андрэй Астроўскі. Пытаньне ўдалося вырашыць, бо ніхто зь легіянэраў у турму ня трапіў.

### Прыколы году

А ў баўгарскай праграмцы матчу Кубку УЭФА паміж іхным ЦСКА і менскім "Дынама" было напісана, што трэнэрамі нашага клюбу зьяўляюцца Зыгмантовіч, а таксама Анатолевіч і Пятровіч. Усё б нічога, толькі галоўнага трэнэра — Вікенцевіча — пакрыўдзілі, не пазначыўшы ў сьпісе.

На Эўрапейскі хакейны выклік нашая зборная лётала вайсковым самалётам-разьведчыкам АН-26. Уражаньняў было — вышэй галавы. На пытаньні гульцоў, над чым яны цяпер лятуць, сьцюард даходліва тлумачыў: "Ды х... яго знае. Паліва, здаецца, сканчаецца, а сесьці няма дзе". Пасьля ўдалага прызямленьня ў "Менску-2" хакеісты вырашылі перайсьці на наземны транспарт.

**Ян Мацур**



IREX-PROMEDIA

Першы беларус-НХЛавец Руслан Салей у жывым этэры *CNN* распавядаў гледачам пра Беларусь

### Спартовыя дасягненьні беларусаў у 2002 г.

| | |
|---|---|
| Легкая атлетыка | Алеся Турава, сусьветны рэкорд у бегу на 3000 м зь перашкодамі;<br>Натальля Сазановіч, бронзавы мэдаль на Чэмпіянаце Эўропы ў сямібор'і. |
| Каратэ | Першае каманднае месца на Чэмпіянаце сьвету. |
| Дзюдо | Другое каманднае месца на Чэмпіянаце Эўропы.<br>Анатоль Ларукоў стаў чэмпіёнам Эўропы ў вагавай катэгорыі да 73 кг. |
| Тэніс | Уладзімер Ваўчкоў перамог у турніры *Manchester Trophy;*<br>Тацяна Пучак дайшла да фіналу *WTA Tour;*<br>Макс Мірны стаў паўфіналістам сэрыі "Мастэрз" пасьля перамогі над Пітам Сампрасам. |
| Шахматы | 19-гадовы Сяржук Азараў стаўся грасмайстрам. |
| Вэлягонкі | Натальля Цылінская сталася чэмпіёнкай сьвету ў гіце й спрынце;<br>Зінаіда Стагурская перамагла ў самай прэстыжнай шматдзёнцы "Вялікая пятля". |
| Акадэмічнае веславаньне | Кацярына Карстэн заваявала срэбны мэдаль у адзіночных гонках на Чэмпіянаце сьвету. |
| Мастацкая гімнастыка | Зборная атрымала срэбны мэдаль у шматбор'і на Чэмпіянаце сьвету, а таксама бронзавы мэдаль у асобным відзе. |
| Спартовая гімнастыка | Іван Іванкоў заваяваў срэбны мэдаль на перакладзіне на Чэмпіянаце сьвету;<br>Аляксей Сянкевіч тамсама здабыў бронзу на брусах. |
| Бокс | Віктар Зуеў атрымаў бронзавы мэдаль у цяжкай вазе на Чэмпіянаце Эўропы. |
| Фэхтаваньне | Віталь Захараў здабыў бронзавы мэдаль на Чэмпіянаце сьвету. |
| Біятлён | Перамога ў эстафэце на этапе Кубку сьвету. |




Ласкавае азначэньне "халяўшчык", якое дала Аляксею Грышыну "НН", выклікала дыскусію на старонках прэсы




Кацярына Хадатовіч не пачала выступаць горш, стаўшы Карстэн



IREX-PROMEDIA

Вадзім Сашурын: мярзотная цана перамог



Іван Іванкоў вярнуў Беларусь на чэмпіёнскі п'едэстал

# "Personal Караткевіч" выйдзе налета

**Цягам 2002 г. наш рок канчаткова сышоў у клюбы. Так, характэрныя для 90-х зборныя вулічныя канцэрты непрыкметна згарнуліся — калі самі сабою, калі з "дапамогай зьверху". Тым часам, у парк-клюбе "Менск" сёлета адбылося блізу дваццаці акцыяў. Менавіта тут на пачатку лістапада прэзэнтаваў свой альбом "Сьвята пакрадзенае" Аляксандар Памідораў, тут прыхільнікі "NRM" пачулі новую праграму сваіх улюбёнцаў. Раней, у красавіку, BMA-group прэзэнтавала там зборку беларускага гардкору "Hardcoreманія: чаду!". Цяпер "Музычная альтэрнатыва" рыхтуе зборнік беларускага рэпу.**

Сярод іншых парк-клюбаўскіх акцыяў можна прыгадаць канцэрт у падтрымку "Першага музычнага каналу" (31 жніўня), арганізатары якога здолелі сумясьціць на адной сцэне і гоп-праект "За-за", і "NRM" з "Нэйра Дзюбэлем" (абяцаныя былі нават "Краскі" зь "Лепрыконсамі"), а вядучы раздаваў удзельнікам конкурсаў бялізну і часопіс "Студэнцкая думка".

У тым самым парк-клюбе прайшло колькі беларуска-польскіх акцыяў — як сумесны канцэрт "NRM" з гуртамі *"Orkiestra na zdrowie"* Яцака Клейфа, *"Pidżama Porno"* і *"T.Love"* або запозьненая (дыск яшчэ вунь калі выйшаў!) прэзэнтацыя сумеснага праекту "Сэрца Эўропы *in Rock*".

Самым "музычна насычаным" месяцам у 2002 г. стаўся красавік. Акрамя вышэйзгаданых "Hardcoreманіі" ды "Сэрца Эўропы", свае альбомы прэзэнтавалі "Нэйра Дзюбэль", "Аляксандра і Канстанцін" ды "Крамбамбуля" — новы праект Лявона Вольскага і кампаніі. Апошні пасьля цягам усяго году прэзэнтаваў "Паўлітра добрага настрою" па менскіх клюбах і рэстарацыях, абяцаючы "Крамбамбулю-2", калі першы дыск будзе карыстацца попытам. Іншы ўдзельнік "NRM" Піт Паўлаў таксама ня спаў у шапку: сабраў аж два сольныя праекты — "Гарацкія" ды "Піт Паф". І яшчэ граў з "Крыві".



IREX-PROMEDIA

**"Баляды" Вайцюшкевіча прэтэндуюць на Рок-карону**

Сярод галоўных радасьцяў году — зьяўленьне ў Беларусі свайго музычнага каналу. На "Першым музычным" можна было пабачыць новыя беларускія кліпы — "Я памру тут" ("Нэйра Дзюбэль"), "Абсэнт" ("Крамбамбуля"), "На турэцкіх палях" ("Палац"), а таксама "новых беларускіх супэргерояў" Сашу і Сірожу.

Што яшчэ было ў 2002-м? Аляксандар Кулінковіч нарэшце засьпяваў па-беларуску — "Забі амэрыканца", "Скрыпка дрыгвы", "Я пamru тут". Сёлета на "Басовішчы" ён беларусізаваў нават колькі сваіх старых гітоў кшталту "Пятровай" ды "Суськаў-забойцаў". А на лютаўскай "Каранацыі" Кулінковіч сказаў "тутнароджаным": "Галоўнае тут не нарадзіцца, галоўнае — тут памерці".

"Палац" выдаў новы, менш электронны, больш гітарны, альбом "Чужыя дзеўкі" і справіў сваё дзесяцігодзьдзе ў паўпустой "Казе". "Уліс" так і не прэзэнтаваў новай праграмы "Люстэрка": канцэрт быў адменены, бо замала квіткоў набылі. Іван Кірчук, зьмяніўшы склад сваёй "Тройцы", паказаў новую праграму "Журавы", дзе можна пачуць зусім незнаёмыя інструмэнты кшталту індыйскага бамбукавага ксыляфона ці новазэляндзкага дрэва дажджу. "NRM", не зважаючы на сьцьверджаньні нядобразычліўцаў пра вычарпаны патэнцыял гурту, рыхтуе новы альбом і штосьці зь яго ўжо грае на канцэртах. На галоўныя гіты альбому прэтэндуюць баляда "Маё пакаленьне" ды працяг "баевіка" "Тры чарапахі". "Ляпіс Трубяцкой" паступова здраджвае сьцёбавай стылістыцы — афіцыйны прадстаўнік гурту кажа, што новы альбом будзе больш сур'ёзны. Цікава толькі, ці будуць слухаць "сур'ёзны" "Ляпіс"?

Працягвае сваю сольную працу Зьміцер Вайцюшкевіч. Ягоны гурт нарэшце набыў назву — "WZ-orkiestra". Усьлед за "Цацачнай крамай" Тодар выдаў дыск беларускіх балядаў ды адсьвяткаваў на пачатку лістапада дзесяцігодзьдзе творчай дзейнасьці ў Тэатры юнага гледача.

Самая відавочная тэндэнцыя году — замацаваньне новае "саладжавае" плыні ў беларускай музыцы. Сёлета свае дэбютныя дыскі выдалі прадстаўнікі гэтага напрамку — гурты "Чэхаў", "Нэо", "*J-Mors*", "Любоў і спорт". Дэбютавалі й супэральтэрнатыўшчыкі з гурту "Нагуаль", што грае псыхадэлічны фольк, — яго можна было пачуць на розных авангардных імпрэзах, кшталту фэсту "СупКультУра" і Дня гораду Менску. Набыў прызнаньне "Вірус Ліха" — ці не адзіны беларускі гурт, які якасна грае рэгі і ска. А хлопцы з *"Partyzone"* дамагліся галоўнага прызу на "Басовішчы-2002".

Але рок жыве ня толькі ў Менску. Чаго варты, напрыклад, гомельскі фэст "Арт-сэсія", які сёлета наведалі нават шатляндзкія й дацкія гурты! Або гомельская ж "СНІДабойка", што адбылася 1 сьнежня й сабрала ўвесь тамтэйшы рок-бамонд. У Наваполацку ў той самы дзень (а ня ўлетку, як звычайна) распачалося "Рок-кола", зладжанае дбаньнямі Сяргея (Анісы) Анішчанкі. Засмучае толькі тое, што гэтыя фэсты часта маюць рэгіянальны характар і разьбіваюць рокераў на "тусоўкі" — менскую, гомельскую, магілёўскую *etc.*, якія слаба кантактуюць міжсобку.

І пры канцы — тэма супольных праектаў. Так і ня выдадзены пакуль альбом-прысьвячэньне Ўладзімеру Караткевічу — не стае грошай, затое выйшаў альбом-прысьвячэньне *"Depeche Mode"*, дзе беларускія музыкі (ад Шадзька да "Крыві") сьпяваюць песьні (у перакладзе на беларускую ці расейскую) сусьветнавядомага гурту.

**Сяргей Будкін**

# За арлянятаў!

Канчатковае разьмеркаваньне пазыцый, занятых выканаўцамі беларускай папулярнай музыкі ў 2002 г., адбудзецца пасьля чарговай "Рок-каранацыі", якая такі значыцца ў плянах Юр'я Цыбіна. Аднак так цырымонія адно вызначыць пераможцаў у асноўных намінацыях, а падрабязную размову пра тэндэнцыі, а тым больш аналіз падзеяў яна пакіне па-за ўвагай. Паспрабую зрабіць гэта цяпер.

Што да выдадзеных дыскаў, дык год быў ня самы лепшы. Недзе ў жніўні здавалася, што наагул будзе пастаўлены сумны рэкорд, аднак увосень становішча палепшылася. Колькасьць прэтэндэнтаў на званьне "Найлепшы альбом году" дастаткова вялікая. Гэта "ПИОТКУКУК" ад "Нэйра Дзюбэлю", "Чужыя дзеўкі" "Палацу", "Сьвята пакрадзенае" Памідорава, "Крамбамбуля", "Баляды" Вайцюшкевіча, *"Деликатесы"* Шадзька, *"Китайская невеста"* гурту "Мадэра хардблюз", нарэшце, *"Personal Depeche"* — яшчэ адзін супольны музычны праект. Паколькі амаль усе яны рэцэнзаваліся ў "НН", казаць пра іх ня буду, адно адзначу, што апошні з названых лічу прэтэндэнтам на перамогу №1. Новы альбом "NRM", "Парк культуры", які зьявіўся днямі, усё ж спазьніўся, а таму можа і прайграць спрэчку за першае месца.

2002 г. пазначыў у нашай папулярнай музыцы дзьве дастаткова цікавыя тэндэнцыі. Першая зь іх — рэзкі рост колькасьці, калі наагул ня выбух у параўнаньні зь мінулымі гадамі, сольных праектаў. Памідораў, Вайцюшкевіч, Паўлаў; "Крамбамбуля" таксама па сутнасьці сольны праект Вольскага, як і тое, што робіць Шадзько. Тое, што музыкі, вядомыя раней па працы ў папулярных калектывах, пачалі рэалізоўваць уласныя творчыя задумы, можна толькі ўхваляць. Па-першае, гэта не выклікае распаду калектываў, а па-другое, нават калі такія праекты і ня дужа перахонваюць, яны ўсё ж садзейнічаюць таму, што ў склад даволі замкнёнай кампаніі музыкаў увахозяць новыя людзі. Гэта трэба толькі вітаць.

Другая тэндэнцыя — прыход у беларускі музычны шоў-бізнэс раней ня бачных там спонсараў. Год даў два пераканальныя прыклады, як можна зрабіць якасны прадукт і ягоную прамоцыю, калі за плячыма музыкаў стаіць альбо магутны спонсар (*"Personal Depeche"*), альбо прадусар з грашыма (*"Китайская невеста"*). І ў адным, і ў другім выпадку мы маем сапраўды добрай якасьці работы. Калі практыка гэтага году пераканае, што на беларускай музыцы таксама можна зарабляць няхай невялікія, адна рэальныя грошы, у яе прыйдуць новыя інвэстары.

Некалькі слоў пра маладых. Налета часта будзе гучаць назва *"Partyzone"*. Ня дзіва: тут і ўзнагарода на "Басовішчы", і альбом — хто яшчэ з маладых можа пахваліцца сапраўдным альбомам? Аднак я назаву яшчэ і такі дуэт, як "SVET&AL", які таксама даў пра сябе знаць сёлета. Два маладыя хлопцы выконваюць неверагодна густоўны акустычны блюз! Маладосьць калінікалі заяўляе пра сябе ў гэтых запісах, аднак раней не даводзілася сустракаць такіх дзёрзкіх і пры гэтым такіх вывучаных, апантаных дэбютантаў. Пра гэтых музыкантаў яшчэ будуць гаварыць. Аднак весь што насьцярожвае: леташні дэбютант *"Impett"* сёлета нешта скіс. У кожным разе, росту актыўнасьці не назіраецца. І ўвогуле: хто зь ліку тых, каго "Рок-каранацыя" адзначала як "Адкрыцьцё году", потым замацаваўся на сцэне трывала? Вось і паўтару: пра маладых трэба пісаць больш! Каб пра іх не забываліся. Прынамсі, гэтак хутка...

А вось клясычная беларуская эстрада сёлета не парадавала наагул. Іна Афанасьева па-ранейшаму ня мае альбому, Ірына Дарафеева працягвае ўсебеларускі тур і толькі рыхтуецца выдаць новы цалкам беларускамоўны альбом, Аляксандар Саладуха выдаў альбом, але пакіну яго без камэнтароў. Адзіная сьветлая пляма — ізноў жа дэма Вікторыі Дзямянчук. Толькі расейскамоўныя песьні, аднак мушу прызнаць: на фоне папсовага безгалосься Віка зрабіла проста вельмі прыстойны дыск!

**Зьміцер Падбярэскі**



IREX-PROMEDIA

**Алесь Суша — твар сьветлага бізнэсу**



IREX-PROMEDIA

**Кулінковіч у 2002 годзе засьпяваў па-беларуску**


IREX-PROMEDIA

Уладзімер Арлоў

# Ці бываюць чарвівыя

## Каталёнцы

Каталёнія, хоць у ейных жыхароў гішпанскае грамадзянства, — зусім не Гішпанія. І рэч не ў аўтаноміі зь яе атрыбутамі (усё адно гэта не дзяржаўнасьць, і тут каталёнцы могуць табе адно пазайздросьціць). Рэч у тым, што каталёнцы — не гішпанцы. Яны, усе шэсьць мільёнаў (тут твая чарга для зайздрасьці), пачуваюцца каталёнцамі ад калыскі, зь якой чуюць сваю мову, да надмагільля, дзе пакідаюць на гэтай мове апошнія зьвесткі пра сябе, падкрэсьліваючы, што ў раі, чысьці і пекле таксама застануцца каталёнцамі.

Адрозна ад баскаў каталёнцы не ўзрываюць бомбаў. У іх стаўка на іншую, больш магутную зброю. Напрыклад, каталёнцы ставяць помнікі ня толькі паэтам і палітыкам, але і свайму нацыянальнаму танцу — сардане. У кнігарні ты адразу апынаешся ў вялізным аддзеле літаратуры на каталёнскай мове, дзе знойдзеш усё — ад Дзюма й Стывэна Кінга да апошніх раманаў Мішэля Ўэльбэка й сэксуальных энцыклапэдыяў. Ужо потым вока заўважыць значна сьціплейшы куток з кнігамі па-кастыльску.

Праз пару дзён ты пачынаеш адрозьніваць каталёнскую ад кастыльскай на слых. Адначасова адбываецца сустрэчны працэс, і на пляжы ў Лярэце-дэ-Мары немаладая, але налітая, як верасьнёўская антанаўка, каталёнка (усе яны, ад 15 да 75-ці, у выдатнай форме), пачуўшы тваю беларускую мову, па-ангельску тлумачыць табе, што ты — не расеец. Беларус? У такім разе ты мусіш адказаць, навошта беларусы, маючы дзяржаву, займаюцца гэтымі дурнотамі з Расеяй. Глядзячы на цябе, ня скажаш, што вы ўсе — *"crazy"*.

Ты дзякуеш. Прыхільніца тваёй незалежнасьці тэмпэрамэнтна сьціскае смуглыя кулакі і паказвае, як трэба інтэгравацца з усходнім суседам: спачатку, каб ня лезьлі ў ваш гарод, вось так (кулак б'е ў кулак), а затым вось так (кулакі разьлятаюцца так далёка, што станік карміначага купальніка напінаецца, як цеціва, і твае думкі пра інтэграцыйныя працэсы адступаюць на другі плян).

Раніцай ты бачыш, як насупраць твайго гатэлю два маладзёны ў форме муніцыпальных рабочых зафарбоўваюць сьвежы надпіс на будынку. Тым, хто забыўся, дзе жыве, надпіс паведамляе, што тут — Каталёнія. Сьледам ідзе ўдакладненьне, што Каталёнія павінна быць незалежнай. Мяркуючы па імпэце, зь якім працуюць маладзёны, ня выключана, што якраз яны і шчыравалі ўчора каля поўначы на гэтым самым месцы.

Магчыма, яны будуць і сярод тых, хто праз два дні, на гульні "Барсэлёны" з мадрыдзкім "Рэалам", уздыме над трыбунамі стадыёну-статысячніка "Камп Ноў" 50-мэтровы транспарант *"Cataluña is not Spain"* і будзе трымаць яго, пакуль не надакучыць, пасьля чаго канчаткова пераканаецца, што ў XXI стагодзьдзі канфігурацыя палітычных межаў у гэтай частцы Эўропы зьменіцца.

## Мора

Займаючыся параўнаўчым аналізам лёсаў Каталёніі й Беларусі, ты ўзьбіваешся на думку пра ролю мора ў гісторыі народаў.

Калі не лічыць сувэнірных міні-дзяржаваў, выхаду да мора сярод сучасных эўрапейскіх краінаў ня маюць (апрача Беларусі) Малдова, Чэхія, Славакія, Вугоршчына, Аўстрыя, Македонія, Босьнія і Герцагавіна, Швайцарыя. Практычна ўсе згаданыя краіны, дакладней іхныя народы, за выняткам Швайцарскай канфэдэрацыі (што толькі пацьвярджае правіла), мелі або маюць цяпер сур'ёзныя праблемы з гістарычнай пэрспэктывай. Чэхаў пасьпяхова анямечвалі, і напачатку XX стагодзьдзя Прага была нямецкамоўным горадам. Славакі дзяржаўную незалежнасьць упершыню атрымалі дзякуючы Гітлеру. Вугорцы паўставалі, каб вырвацца з імпэрыі Габсбургаў. Аўстрыя перажыла аншлюс... Разважаньні, відаць, нябездакорныя, але, але... Асабліва калі засяродзіцца на Беларусі. Кожны можа сам прапанаваць пералік рысаў нацыянальнага характару, на якія ўплывае наяўнасьць у краіны ўласнага марскога ўзьбярэжжа.

Навукоўцы даводзяць, што, калі нацыянальнаму арганізму бракуе багатых на ёд марскіх прадуктаў, у ім непазьбежна ўзьнікаюць мэнтальныя перакосы. А хіба не бракуе гэтаму арганізму прыліваў і адліваў, штормаў і штыляў, партовых корчмаў і бардэляў?

Асабіста ты ведаеш, прынамсі, тузін былых маракоў, на якіх у іхных гарадах і мястэчках трымаецца ці ня ўся беларушчына. Адзін знайшоў магілу Віктара Каліноўскага. Другі кіруе скаўтамі, што складаюць прысягу на Аршанскім полі. Трэці паставіў помнік Янку Скрыгану ў эстонскім гарадку, куды быў высланы пісьменьнік... Помнік табе самому, магчыма, таксама паставяць маракі.

## Барсэлёна

У твайго гіда лепш за ўсё парасейску выходзіць: *"Поздравляю Вас с экскурсией по Барселоне"*. Відавочна, ён ведае гэта й сам, бо ледзь не штохвіліны паўтарае сваё віншаваньне. Тым ня менш, сёе-тое, апрача зьвестак з турыстычных даведнікаў, табе ўдаецца пачуць. Да прыкладу, тое, што Каталёнія мае свайго прэзыдэнта, які ў барсэлёнскай рэзыдэнцыі прымае прэзыдэнтаў іншых краінаў. Твой гід ніколі ня дасьць веры, нібы ў прыродзе існуе прэзыдэнт, што як роўных прымае ў дзяржаўнай рэзыдэнцыі чужых губэрнскіх начальнікаў, а там, можа стацца, пачне прымаць і раённых.

Уражаньні пра горад табе заманецца асэнсаваць не на бульвары Рамбляс і не на Пляса дэ Каталюнья, а каля хмарачоснай калёны з масянжовым Калюмбам на прыморскай эспляндзе.

Твая галоўная высновa: Барсэлёна вартая стаць сталіцаю эўрапейскай дзяржавы.

Ня выключана, што гэта здарыцца, калі будзе дабудаваны сабор Саграда Фамілія, спраектаваны геніяльным Антоніё Гаўдзі.

## Гаўдзі

Бяз твораў Антоніё Гаўдзі Барсэлёна нагадвала б Кракаў бяз Вавэлю або Полацак без Сафійскага сабору.

Найбольш дасканалай формай Гаўдзі лічыў яйка і заўжды насіў свой архітэктурны ідэал (мабыць, усё ж у звараным нацьвёрда выглядзе) у кішэні. Але зь ягонага яйка вылупляліся зусім неспадзяваныя кураняты.

У спарудах Гаўдзі прысутнічае нешта бархесіянскае — Укбар, Тлён, *Orbis Tertius*... Не, вядома ж, наадварот — у Борхеса безьліч гаўдзіянскага, бо ён любіў блукаць гэтымі вуліцамі наяве і ў сьне, нястомна шукаючы свой Буэнас-Айрэс.

У доме-музэі Гаўдзі ўражвае спартанскі ложак на адну пэрсону. Сіратлівa і непрыкаяна глядзіцца за шкляной сьцяною спальні й унітаз зь лякаваным драўляным седалам. Цябе не пакідае думка, што тут жыў няшчасны самотны чалавек, які ў 1926 годзе ўзяў ды трапіў пад трамвай. Насамрэч апошнія дванаццаць гадоў архітэктар дняваў і начаваў проста на будоўлі сваёй архітэктурнай Біблії.

Бясспрэчная геніяльнасьць Гаўдзі й у тым, што ён замысьліў свой шэдэўр такім чынам, каб яго будавалі бясконца. (Меркаваная дата завяршэньня — 2022 год — выклікае ў барсэлёнцаў іранічную ўсьмешку). Да такога не дадумаўся нават яшчэ адзін геніяльны каталёнец — Далі.

Ты выдатна разумееш, што Далі зусім не дзеля таннага эпатажу заклікаў зруйнаваць цэнтар Барсэлёны, узьвёўшы на ягоным месцы "горад будучыні". У створаных Гаўдзі дэкарацыях Далі рызыкаваў выглядаць акторам другога пляну.

## Далі

"Вытанчаны труп будзе піць маладое віно". Згаданая паталягічна-гастранамічная фраза, атрыманая маладымі сюрэалістамі ў выніку гульні кшталту складаньня бурымэ, выклікала ў Далі шалёнае захапленьне.

Ты пакуль што ня труп. Радуючыся гэтаму, ты п'еш усякае віно: і маладое, і, калі хапае грошай, зусім немаладое. Ты п'еш яго й думаеш, што ў крыві ў беларусаў занадта шмат гарэлкі й піва і катастрафічна мала добрага віна. Магчыма, гэтая акалічнасьць уплывае на гістарычны лёс нацыі ня менш за адсутнасьць выхаду да мора.

Але ключавое слова ў фразе, якую некалі ўпадабаў Далі, не віно, а — труп. Напэўна, таму ты ўспамінаеш, што сярод мараў твайго маленства была й гэтая — стаць паталягаанатамам, як твой сусед, вясёлы габрэй дзядзя Жэня.

Ня хочацца думаць пра той час, калі на цябе зьляцяцца ўвасабленьні тваіх дзіцячых мрояў. Пагатоў, сёньня ты п'еш віно ў Фігейрасе, дзе калісьці тое самае рабіў Далі, а дацадзіўшы келіх, наведаеш тутэйшы тэатар-музэй мастака, найбуйнейшы, як сьцьвярджае турыстычны праспэкт, сюрэалістычны комплекс у сьвеце.

Паводле тэстамэнту Далі, экскурсаводы павінны тут маўчаць, бо сюрэалізм немагчыма вытлумачыць. Як і большасьць тэстамэнтаў, гэты не выконваецца: гіды ўзахапы верашчаць на самых розных мовах. Нехта можа зьдзівіцца, пры чым тут Гітлер, якога колькі разоў згадвае перакладчыца-"японка". Але ты чытаў "Дзёньнік аднаго генія" і для цябе не навіна, што Далі пісаў, нібыта Адольф Гітлер у ягоным уяўленьні — "ідэал жаноцкасьці", і публічна прызнаваўся, што быў закаханы ў "зваблівую плоць фюрэра". Праўда, ты ня згодны, што такія прызнаньні — крайняе сьведчаньне ўласьцівага каталёнцам "ібэрыйскага шаленства". Гэта, натуральна, усяго толькі водгульле гомасэксуальнай арыентацыі Далі, якой ён трымаўся да сустрэчы з Галой.

Ты, цалкам талерантны да якіх заўгодна сэксуальных меншасьцяў, ціхамірна бласкунеешся па залях, дзе бавіў жыцьцё стваральнік "Вялікага мастурбатара" (тут міжволі згадваецца паэт-рэванішыст С.Адамовіч), "Успамінаў пра Леніна" (гронка чырвоных ягадаў засёў асацыюецца з крывёю) і "Дзяўчыны, якую разбэшчваюць рогі ўласнай цнатлівасьці" (на памяць прыходзіць адна знаёмая часоў юнацтва, якая пакутліва й ахвярна прагнула спасьцігнуць тонкую розьніцу паміж пэнісам і фалясам).

Дзесьці тут Далі марыў стварыць анкляў свайго сюрэалістычнага сьвету — выпісаць з трапічных шыротаў тысячу слановых чарапоў і шчодрай рукою пасыпаць імі дол. Шкада, што ня ўсе мары геніяў зьдзяйсьняюцца; з другога боку, шкада было б і слонікаў.

А вось тут, на чатырох- ці пяціспальным ложку-каўчэгу, Далі любіў сваю верную і адданую Галу. Безумоўна, гэта таксама адбывалася геніяльна і сюрэалістычна. Нездарма каля ложка цябе наведваюць дзіўныя фантазіі. Напрыклад, што атрымаецца, калі павесіць птушку? Яна, відавочна, не памрэ, а будзе лётаць і глядзець на цябе зь пятлі чалавечымі вачыма. А дзе птушкі знаходзяць апошні спачын? Можа, недзе існуюць птушыныя могілкі — да самага далягляду цягнуцца тысячы белых мармуровых надмагільляў з крылатымі скульптурнымі выявамі.

Над птушыным нэкропалем і над тэатрам-музэем Далі нізка вісіць шышшынавая ягадзіна каталёнскага сонца. У пераходах



Уладзімер Арлоў (нар. 1953) — пісьменьнік, гісторык. Аўтар кнігі "Сны імпэратара", бэстсэлераў "Адкуль мой род", "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Сталы аўтар "НН".

Каталёнскі дзёньнік

# мандарыны

гусьцее прыцемак, гатовы ўвасобіць любую дрымотную пачвару тваёй падсьвядомасьці. Ты ўяўляеш, як застаешся ў музэйных залях на ноч, і ад адной гэтае думкі халаднееш. Табе здаецца, што Далі таксама марыў стаць, калі вырасьце, паталягаанатамам, але, адрозна ад тваёй, яго мара ажыцьцявілася, і ягоны тэатар-музэй стаўся найбуйнейшым у сьвеце сюррэалістычным моргам.

## Гала́

Калі вы знаходзіцеся ў рамантычным тумане гісторыі пра вечнае каханьне Далі і Галы, вам трэба неадкладна ўцякаць ад экскурсавода Сымоны або выцягваць валідол.

Гала, народжаная ў Казані як Алена Іванаўна Дзяканава, аказваецца, пралічыла ўсё зь бязьлітаснай бізантыйскай хітрасьцю. Зразумеўшы, што зь першага мужа, паэта Поля Элюара, ужо шмат ня выцягнеш, яна падслалася пад пэрспэктыўнага й маладзейшага за яе на дзесяць гадоў гомасэксуаліста Далі. Між тым, на ўсялякі выпадак фармальна засталася жонкаю Элюара, а замуж за Сальвадора выйшла толькі пасьля сьмерці Поля ў 1953 годзе.

Сымона, якая толькі й чакала ў тваіх вачох нязгоды з такой трактоўкай, імгненна выцягвае з кішэні сваёй, далікатна кажучы, нелюбові да Галы новы аргумэнт. Мадам Дзяканава змусіла Далі падпісаць тысячу чыстых аркушаў. Нанятыя ёю барсэлёнскія мастакі ператваралі аркушы ў геніяльныя творы, а сама муза рупліва кавала таньгу.

Ты пярэчыш Сымоне: муза генія мае права на маленькія чалавечыя слабасьці. Але экскурсаводка гатовая да тваёй атакі. А хто вымагаў ад Далі купіць ёй сярэднявечны замак, у які вы зараз кіруецеся? Замак патрэбны быў гэтай бэстыі выключна дзеля таго, каб пасяліцца асобна й нарэшце цалкам аддацца сваім прыроджаным німфаманскім схільнасьцям. Адзінымі экспэдыцыямі ў рэальнасьць з гэтай бясконцай эратычнай фэрыі з удзелам даўжэзнага цугу амарантаў для Галы заставаліся штодзённыя паездкі на кадыляку да каханага Сальвадора — не дзеля разнастайнасьці пасьля юных целаў, а дзеля вымаганьня грошай на працяг сьвята сваёй не да канца завялай плоці.

Але нават Сымона аддае Гале належнае: ейная тэхналёгія "падаўжэньня маладосьці" дала плён і, магчыма, вартая пераймання. Трэба дацягнуць да сямідзесяці пяці, змусіць мужа купіць вам замак, зачыніцца там з маладымі амарантамі — і гадоў дзесяць-пятнаццаць паўнакроўнага, так бы мовіць, жыцьця вам яшчэ забясьпечаныя. Іншая рэч, што пасьля вашае, выбачайце за банальнасьць, сьмерці муж можа не прыехаць на хаўтуры, абвясьціўшы, як зрабіў Далі, што вы, маўляў, неўміручая. Затое потым ён, адумаўшыся, пахавае вас у шыкоўнай дамавіне з датамі 1894—1982, а ваш замак ператворыць у музэй, аднаму з наведнікаў якога ўспомніцца эпічны пачатак ненадрукаванага твора Алеся Асташонка: "Пад'езд прапах спэрмай".

Ты ад самага дзяцінства з глыбокай сымпатыяй ставішся да німфаманак, якія, бясспрэчна, упрыгожваюць гэтае месцамі шараватае жыцьцё. Ты захапляешся стыльнымі замкавымі інтэр'ерамі й мэбляю, частка якой захавалася ад часоў Рэканкісты. Аднак, вярнуўшыся ў аўтобус, ты з прыкрасьцю ловіш сябе на думцы, што зараз табе больш за ўсё хочацца ня скокнуць у ложак зь юнай дзевай, а залезьці ў гарачую ванну і як сьлед памыцца.

## Андора

Безьліч тваіх суайчыньнікаў шчасьліва жыве й памірае, нават ня ведаючы, што недзе паміж Францыяй і Гішпаніяй яшчэ ў Сярэднявеччы ўшчамілася й дажыла да нашых дзён маленькая, але ганарлівая й незалежная краіна Андора.

А вось ты меў няшчасьце вычытаць пра ейнае існаваньне ажно ў шостай клясе. Больш за тое, з атлясу "Краіны сьвету" ты даведаўся, што гэты ледзь прыкметны на мапе лапік усходніх Пірэнэяў мае сталіцу пад зваблівай назваю Андора-ля-Вэля.

Твая настаўніца геаграфіі, як аднойчы высьветлілася перад усёй клясай, гэтага ня ведала, за што й помсьціла табе да самых выпускных іспытаў: калі ты ведаў урок на "пяць", неахвотна выводзіла чацьвёрку, а на "трояк" лепей было не адказваць.

О, як у такія моманты ты не любіў недасяжнай для савецкага чалавека Андоры зь яе самай высакагорнай у Эўропе сталіцай! І далёкая краіна, нібы адчуваючы праз палову мацерыка тваю абсалютна незаслужаную нянавісьць, імкнулася залагодзіць цябе, прыходзячы ў снах.

Там, у той Андоры, расьлі мандарынавыя дрэвы, адкуль ты мог дасхочу шчыпаць плады, якія ў рэальным жыцьці бачыў адно ў навагоднім падарунку ў колькасьці дзьвюх штук. Там на карлікавым поплаве пасьвіліся пярэстыя карлікавыя кароўкі, а на беразе рэчкі загарала голая і зусім ня карлікавая Віка Цімафеева з суседняй парты. У траве ўтульна сакаталі конікі, цыкады і нейкія невядомыя табе шкоднікі палёў і лугоў, а на даляглядзе нязлосна паколваў неба сьпічакамі вежаў цацачны замак. І раптам ідылію праціналa трывога. Нават у сьне ты ўжо разумеў, што сьвет недасканалы й жорсткі і што з-за тэатральнага замку ў наступны момант зьявіцца Карабас-Барабас, замест якога над замкавымі мурамі пагрозьліва бліскалі магутныя лінзы акуляраў ненавіснай "вучылкі". Ты прахопліваўся і доўга круціўся з боку на бок, спасьцігаючы ў начной вусьцішы горкую ісьціну зь яшчэ непрачытанай Бібліі — пра вялікі смутак ад вялікай мудрасьці. Хіба мог ты тады ў самых сьмелых мроях уявіць, што прыйдзе час — і ты апынешся за нейкую сотню кілямэтраў ад краіны тваіх сноў, і, сеўшы на аўтобус, праз пару гадзінаў зможаш паквітацца зь ейнай сталіцаю за зьнявагі й пакучую дзіцячую крыўду.

Ты напружана разважаеш над спосабам сваёй помсты (байкот разрэклямаваных танных андорскіх крамаў? Старыя добрыя графіці?..) і ўрэшце спазьняешся на апошні сёньняшні аўтобус.

Мо так яно і лепей. Няхай там, за пераваламі, сакочуць конікі. Няхай загарае голая Віка, якую забіла бэтоннай плітой на будоўлі. Няхай, трошкі мружачыся ад сонца, чытае на лавачцы кніжку даўно асьлеплая геаграфіца, а сьпелыя мандарыны няхай коцяцца па сьцежцы да ейных ног і шыхтуюцца більярдавым трохкутнікам, абуджаючы ўспамін, як праблемны вучань, які ведаў шмат лішняга й непатрэбнага, аднаго разу запытаўся ў яе, ці бываюць мандарыны чарвівыя...

## Расейцы

Ты едзеш у барсэлёнскім аўтобусе й назіраеш, як разьлезлая цётухна важка падплывае да кіроўцы: *"Водитель, выключите, пожалуста, вентиляцыю!"* Каталёнец кідае на просьбітку неўразумелы позірк. *"Вы што, не панимаете?* — ад душы зьдзіўляецца цётухна. — *Я вам гаварю: выключите вентиляцыю!"* Ёй і няўцям, што прастора, праўдамі і няпраўдамі захопленая расейскай мовай, няўхільна сьціскаецца і што, каб яе, цётухну, не зразумелі, зусім неабавязкова ехаць на край Эўропы. Дзеці і ўнукі зьмерзлай ад кандыцыянэру пасажыркі ўжо стануць сьведкамі сьцісканьня самой тэрыторыі Расеі.

Пакуль жа яны шчыльнымі радамі адпачываюць на ўзьбярэжжы Коста-Брава. Але занудлы-эўрапейцы ўжо цяпер не даюць сваім стрыечным эўразійскім братам і сёстрам канчаткова расслабіцца. Пазаўчора паліцыя злавіла ўмельцаў, якія тэлефанавалі ў Маскву з дапамогаю дроціка. Учора на пляжы са шкадобаю казалі пра Сярогу, якога сыгналізацыя засекла на выхадзе з маркету зь дзьвюма пляшкамі віскі.

А сёньня гэтая публіка расхваляваная наагул жудаснай навіной. Выяўляецца, што ў гатэлі ўжо не пасікаеш, як раней, за мілую душу проста ў басэйн. Трэба не па-расейску вылазіць і цягнуцца ў *WC*, бо ў ваду дадаюць падступны хімічны рэактыў і вакол сікуна ўмомант разыходзіцца фіялетавае воблака ды яшчэ аўтаматычна пачынае граць музыка Вівальдзі.

*"Вы тольке падумайте, сама Ала Барисавна... А им всё равно: плати штраф. Эта ж тихий ужас!"* — *"Ну, пидары!* — салідарызуецца з сымпатызанткамі Алы Барысаўны абгарэлы на сонцы бамбіза. — *У их точна мазги не в ту сторану крутяцца. Скора и в море не атальёш! Тоже какая-нибудь х...я заиграет!"*

Уплыў расейскай культуры на тваю творчую асобу значна шматстайнейшы, чым табе мроілася. Перад вячэрай ты плаваеш у басэйне на даху свайго гатэлю, і ў тваю галаву дае нырца спакусьлівая думка: а можа, тут цывілізацыя яшчэ не сказала свайго апошняга слова? Вядома, лепей, каб пераканацца ў гэтым паспрабаваў хто-небудзь іншы. Але ты плаваеш на самоце і можаш разьлічваць толькі на сябе.

Ты ўважліва глядзіш на ваду і прыслухоўваешся да арганізму. Ніякія рэактывы цябе ні ў якіх месцах не казычуць. Стэрэакалёнак, адкуль пальецца музыка Вівальдзі, нідзе не відаць...

Вырвацца з плыні магутнай культурнай традыцыі братняга народу табе ўдаецца толькі нечалавечым намаганьнем волі, паклікаўшы на дапамогу цэлую галерэю выбітных продкаў і сучасьнікаў.

"Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!" — усьцешана галёкаеш ты, бегаючы вакол басэйну пад вечаровым, падазрона фіялетавым каталёнскім небам.



**Наталка Бабіна**

# Дамачкі




**Існуе такі тып карэнных мянчанак — жанчын з правільнымі фігуркамі і няправільнымі рысамі твару...**

Мы прыйшлі першыя. Цырк маўчаў, засяродзіўшыся на сабе перад пачаткам нашэсьця. Нашыя паліто адзінока пагойдваліся ў гардэробе. Ні ў вэстыбюлі, ні на лесьвіцы, ні ў буфэце мы не сустрэлі нікога.

Я замовіла сабе каньяку, а дзецям — ліманаду і пірожных.

— Мама, а можна папрасіць марозіва?

— Папрасіць можна, але я не куплю. У малога катар.

Малы, ужо перапэцканы ў белы крэм, раптам падняў галаву, прыслухаўся, што там пра яго кажуць, і абвясьціў:

— Хачу какаць!

— Варта ўхвалы! Павал!

Мы з Паўлам выкінулі на пальцах "камень — нажніцы — папера", і выпала весьці малога яму.

— Я пасьцерагу вашыя пірожныя.

Дзеці зьніклі — сярэдні пабег за кампанію.

Яна паднялася, аднекуль зь цёмнага кутка, з-за дальняга століка, падышла. Калі я зразумела, што гэта яна, у мяне закалацілася сэрца, я трохі разгубілася і адчула, што гэта відно па маім твары.

— У вас цудоўныя дзеці.

Дык вось, значыцца, як яна выглядае. Занадта старанна зробленая прычоска, занадта худыя ногі, занадта бездакорны макіяж. Дробненькая. Тэатральны крытык. Крытыкеса.

— Здаецца, трэба пагаварыць, — сказала яна.

— Няма пра што. Калі ласка, ідзіце адсюль.

Гэта прагучала недалікатна, але не таму, што я хацела яе абразіць, мне проста здрадзіў голас.

Ейны тварык здрыгануўся, аднак, памарудзіўшы, яна перасмыкнула плячыма і, не сказаўшы больш нічога, выйшла — вельмі простая сьпіна, трошкі крывалапіць.

Апусьціць бы зараз галаву на рукі і пасядзець так нерухома, бяз думак, пакуль не адалье кроў ад шчок... Але ў буфэт паціху націкае народ, вясёлыя гаманкія гледачы цырку. Я дастала цыгарэту; запальнічкі, вядома, няма. Бармэн, што пераціраў шклянкі, выйшаў з-за стойкі і паднёс мне агню. Дзякуючы, я сустрэлася зь ягоным позіркам і зразумела, што гэты незнаёмы чалавек ведае, хто я і хто яна. Ён прафэсійна ўсьміхнуўся і паставіў на стол папяльнічку.

Цудоўныя дзеці. Безгустоўна падыходзіць з такімі словамі да жанчыны, у якой ты зьвяла бацьку гэтых самых дзяцей! І гэты яе ангельскі касьцюм, такі недарэчны ў цырку. Тэатральная крытыкеса бяз густу. Дый не яна адабрала ў мяне мужа: я сама, сваімі рукамі штосілы пхала яго прэч. Але не, ізноў ня так. Я проста паціснула плячыма ды адвярнулася. І ён сышоў.

Хапае ж у яе ідыятызму гаварыць банальныя фразы пра цудоўных дзяцей!

Я выпіла свой каньяк адным глытком. Малапрыемна, затое адразу супакойвае.

З бліскучымі вачыма зьявілася мая тройца, абвясьціла, што яны ідуць фатаграфавацца з сланом, і, хуценька прыкончыўшы пірожныя, ізноў зьнікла. Спадзяюся, сапраўды да слана. Я цьвёрда дамовілася з старэйшымі, што да бацькі ў грымёрную яны ня пойдуць. Можа, пасьля шоў...

Сёньня роўна год, як мы зь Янам развяліся. Да гадавіны быў прымеркаваны й культпаход.

Я затушыла цыгарэту і пайшла ў залю.

Пакуль не пачалося шоў, гледачы маглі паспрабаваць катапультавацца з сур'ёзнага выгляду катапульты. Двое гімнастаў, зарабляючы грошы для цырку і для сябе, якраз запраўлялі ў рамяні дзяўчыну. Яна прыціскала рукі да грудзей, і выраз твару казаў: не забаюся. Сьмялячка ўзьляцела высока і доўга круцілася пад купалам. У залі пляскалі.

Вочы сыноў, якія пасьпелі ўжо прыйсьці на месцы, ізноў загарэліся.

— Каб не малы, дазволіла б, — папярэджваючы просьбы, сказала я. — А так — не. Ён жа ўзьніме крык, каб і яго ўзялі, — купал абваліцца.

Катапульту прыбралі. Вялікае сьвятло згасла, агеньчыкі па сьценах успыхнулі ў такт дырыжорскай палачцы. Ніколі ня думала, што буду так хвалявацца. Я ведала, што клоўны выйдуць на арэну адразу пасьля парадуале. Зараз пабачу былога мужа.

Ён не перамяніўся за год — гэта відаць, нягледзячы на грым. Моцныя худыя рукі, рыжая чупрына... Клоўн, зь якім я пражыла дванаццаць гадоў.

Старэйшыя з захапленьнем глядзелі выступ бацькі, малы яго не пазнаў.

Сюжэт рэпрызы просты: Саўка ды Грышка ладзяць дуду. У працэсе гэтага яны сварацца, дурэюць, уцягваюць у спаборніцтва гледачоў... Заля сьмяялася як адзін чалавек, але ў гэтай вясёласьці было й трошачкі суму, бо ў тых простых калізіях бачыліся і гумар, і шчасьце, і сапраўдная невымерная адзінота дзяцінства, памяць аб якой застаецца ў кожнага дарослага...

Ян вёў, гэта адчувалася. Нешта незаўважна-адметнае зьявілася ў ягонай ігры, як душа ў целе. Няўжо дзякуючы ёй? Я пашукала яе, і мы сустрэліся вачыма. Трыюмфу ў позірку не было.

Авацыя была заслужаная. На паклонах Ян нас, здаецца, заўважыў.

Месца, дзе сядзела яго крытыкеса, апусьцела — мабыць, пайшла да яго за кулісы.

Шоў захапіла дзяцей, нават меншага. Зьмененыя музыкай, блікамі белага сьвятла, вопраткай, на перакрыжаваньні тысячы позіркаў, пад купалам луналі тыя самыя гімнасты, што былі пры катапульце. З усіх гледачоў толькі я не назірала за іх палётам — зьмененая музыкай, блікамі белага сьвятла, каньяком, які ціха зьмяшаўся з крывёю, я назірала за палётам сваіх успамінаў, заглыбленая ў сябе.

...Фаіна часта казала мне, што я ня ўмею "трымаць удар". Звычайная хвароба каторага зь дзяцей выбівае мяне з каляіны. Ледзьве слупок тэрмомэтра падымаецца вышэй за 37, у маёй душы ўтвараецца хаос, які хутка паглынае ўвесь дом. Справы валяцца з рук, я не кармлю іншых і ня ем сама, не хаджу на працу. Зануранае ў адну думку, не магу адарвацца ад кволага гарачага цельца, сяджу зь ім на руках цэлы дзень, і ад страшэнных сцэнаў, намаляваных уяўленьнем (тэмпэратура — сутаргі — рэанімацыя; боль у жываце — апэндыцыт — рэанімацыя; сып — мэнінгіт — рэанімацыя), мяне адцягвае толькі неабходнасьць даць дзіцяці парашок, зрабіць кампрэс... Але карысьці ад яго ніякай — ні дзіцяці, ні мне. І Ян ніколі нічым ня мог нам дапамагчы. Часьцей за ўсё яго проста не было дома, а калі й быў, дык паводзіўся яшчэ больш бездапаможна, чым я. Соваўся па пакоі, кудлаціў рудыя валасы й паўтараў як заведзены: "Трэба нешта рабіць, трэба нешта рабіць". А рабіць ня ўмеў нічога, і менш за ўсё ўмеў лячыць дзяцей. І кашмар нагрувашчваўся і гусьцеў, як хмара, аж пакуль пасьля працы не прыходзіла Фаіна.

Во дзе быў эскуляп!

Энэргічная і спакойная, яна забірала ад мяне хворага хлопчыка, цалавала ў лоб і падкідала да столі:

— Няма ніякай тэмпэратуры, мама зноў напрыдумляла жахаў! Вясёленькі хлопчык, як мае быць, няма чаго панікаваць, — і, во дзіва, безнадзейнае дагэтуль дзіця сапраўды пасьміхалася, лекі пачыналі дзейнічаць, панос пераставаў, боль сьціхаў, зьяўляўся апэтыт...

Фаіна гатавала дыетычную вячэру, карміла маіх, мыла посуд і канчаткова прыводзіла мяне ў змыслы, ставячы перада мной каву і нібыта мімаходзь заўважаючы:

— Лысы вітаў.

Гэтай магічнай фразы было дастаткова. Прыроджанае пачуцьцё адказнасьці брала верх над слабасьцю натуры. Лысы, або Лысенка, — наш загадчык, на якога ўсе мы молімся. Ён умудраецца даставаць нам замовы ня толькі ў Маскве, што нікога ўжо ня дзівіць, але і ў Бэрліне ды Боне.

Менавіта ён у бурлівым дзевяноста першым ня даў пайсьці ў чаўнакі і рыэлтары тым, каго лічыў касьцяком нашага аддзелу, рашуча адпачкаваў ад інстытуцкага монстру мабільнае архітэктурна-будаўнічае бюро і прымусіў нас працаваць так, каб заробкаў хапала ня толькі на пражыцьцё, але і на нашае асабістае капітальнае будаўніцтва. Маленечкі, плюгавенькі і сапраўды лысы, геніяльны інжынэр і мэнэджэр, ён кіруе жалезнай рукой, і проста немагчыма ўявіць, што будзе, калі раптам хто ня зробіць сваёй часткі праекту ў вызначаны ім сьціслы тэрмін і падвядзе тым самым увесь калектыў. Мне ён падсыпае самыя складаныя задачкі.

— Пянёк ты, душа мая, — звычайна кажа Лысы, праглядаючы мае красьлюнкі, — гэта ж трэба было выйсьці замуж за клоўна і настругаць траіх дзяцей! Ды з тваёй галавой, каб ты была адна, даўно б ужо ў якім Нью-Ёрку грошы заграбала! — Лысы размашыста падпісваў чарцяжы і соваў мне чарговае тэхзаданьне. — Ідзі, мазгуй! Архітэктары тут разгарнуліся...

Гэтыя майстры разгарнуцца. Ім фантазіі будзіць ня трэба, яна ў іх цьвіце пышнай квеценьню й магутна, гучна мкне. Мая ж задача — скіраваць гэтую глыбокую плынь у рэчышча дакладных разьлікаў, каб пабудаваная паводле нашага праекту будыніна не павалілася ад ветру. Гэта забірае ўсе думкі, увесь час, а рашэньне часам выплывае з падсьвядомасьці зусім нечакана — калі стаіш на чырвонае, закупляешся на Камароўцы, чакаеш чаргі да зубнога... Калі я працую, забываюся на ўсё, толькі не на дзяцей — варта катораму трошкі прыхварэць, і мяне перамыкае. Я не магу думаць. Лысы ведае пра гэта, таму дапамог мне знайсьці надзейную няньку і пэрыядычна перадае прывітаньні праз Фаіну.

З Фаінай мы сябравалі з інстытуцкіх часоў. Абедзьве мянчанкі, толькі я — зь Сельгаспасёлку, а яна — з Цаглянага. Існуе такі тып карэнных мянчанак — жанчын з правільнымі фігуркамі і няправільнымі рысамі твару, узгадаваных на каштоўнасьцях дваровай супольнасьці. Мы абедзьве такія. Толькі Фаіна нашмат больш эфэктная: меднарудыя густыя валасы і фіялкавыя вочы — такіх я ні ў кога больш ня бачыла. Як аквамарыны. Рэдкая прыгажосьць. Але яна не прынесла Фаіне "шчасьця, долі".

Бо за белай ядвабнай скурай, за спраўнымі, тугімі мускуламі хаваўся дэфэкт — Фая не магла вынасіць дзіця. Чатыры разы




**Наталка Бабіна (нар. 1966) — інжынэрка, пісьменьніца. Піша па-беларуску і па-ўкраінску. Жыве ў Менску. Сталая аўтарка "НН".**

# сярэдніх гадоў

спрабавала — і чатыры разы справа канчалася больніцай. Выкідышы. Самаадвольныя аборты. Сіняе скурчанае скрываўленае цельца, танюткія пальчыкі, якія яна пабачыла, перш чым страціць прытомнасьць на апэрацыйным стале, усё жыццё стаялі ў яе перад вачыма.

Але яна ўдар трымаць умела. Да пары.

Як добра яна жартавала і сьмяялася! На "адхадняку", пасьля здачы якога асабліва складанага праекту, яна, дасканала капіюючы мэлёдыю, тэмбр і стыль Мэладзэ ды дзяржаўную трасянку, выводзіла:

– Дамачкам сярэдняга возраста
Трудна ізьбежаць адзіночаства...

Мы, добра падпітыя, рагаталі. А адзіноты пазьбегнуць яна не змагла.

Першы зь яе трох мужоў плакаў, калі яна сыходзіла ад яго, а калі сыходзіў апошні — хоць бы яна хліпнула. Затое дала сабе волю, калі дзьверы за ім замкнуліся. І нейкая струна ў ёй аслабела. Упершыню камяні, якія яна насіла ў завушніцах, зьзялі мацней за яе вочы.

Я прывыкла да таго, што Фая магла патэлефанаваць а пятай раніцы, каб паведаміць пра якую Аготу Крыстоф, якую яна вось толькі прачытала, або расказаць пра чарговую прыгоду ў бары, або раптам выцягнуць нас куды ў Ратамку "на сьвята квітненьня вішні"... Я не заўважыла, калі гэта раптам скончылася. Занураная ў разьлікі чарговых бэлек, задачкі па арытмэтыцы ды баршчы, прапусьціла гэты момант.

Калі аднойчы яна не прыйшла на працу і не падняла слухаўкі, Лысы, па завядзёнцы, паслаў мяне перадаць ёй прывітаньне. Адмыкаючы дзьверы сваім ключом, я рыхтавалася пажартаваць, як гэта звычайна рабіла яна. Абсалютна не чакала таго, што пабачыла, і па інэрцыі працягвала пасьміхацца.

Яна павесілася. Старанна ўбралася на сьмерць: на ёй была яе найлепшая, вельмі дарагая сукенка і новыя модныя туфлікі; адзін зваліўся. Сьмерць зжэрла яе прыгажосьць і страшна зьмяніла пасінелы ўжо твар. Калі, крычучы ад жаху, я абрэзала вяроўку, халоднае цела абрынулася на мяне. Я пасьлізнулася ў калюжцы, што нацякла пад яе нагамі, і мы абедзьве грымнуліся на падлогу — дамачкі сярэдняга веку, кумы, такія падобныя ў многім і розныя толькі ў адным: адна — жывая, другая — мёртвая.

Я заўжды памятаю: гэта я вінаватая ў самагубстве Фаі. Сьмерць, гэтая ўвасобленая адзінота, ціхенька паклікала яе — а я ня чула. І вось цяпер сьмерць забрала яе з сабой, адвяла ў свой двор і вярнулася, хаваючыся да пары за рогам, — па наступнага...

...Ізноў нумар Яна. З агроміністага меха дастае талеркі, пральныя дошкі, рондалі, і вось ужо заля ўяўляе сабой хор і аркестар імя Вяроўкі... Крытыкеса зноў на сваім месцы, але глядзіць ужо не на нас, а на яго. Цяпер ён працуе крыху ня так, нэрвуецца. За год, што мінуў, я не развучылася разумець яго настрой. Употалкі ён пазірае ў наш бок. Воплескі доўга не сьціхаюць — аж пакуль не пачынаецца наступны нумар і я зноў не зануряюся ў свае думкі.

...Колькі ўсяго трымалася на ёй, на маёй Файцы. Лысенка так і ня змог падшукаць ёй вартую замену.

Дзьве сарокі, мы з Фаяй і на рабоце трашчалі на гаворцы нашага дзяцінства, і паступова яна запанавала ў бюро. Беларуская мова была такой самай адметнай яго рысай, як лягатып і шыльда. Калі Фая памерла, я анямела. Не хацела гаварыць па-расейску і ня здолела па-беларуску. Адняло мову. Я не магла больш гаварыць, як, бывала, гаварыла яна: "Што за лямант і енкі? Праблема вырашаецца ўмомант". І праблемаў стала больш.

Але і ня ў гэтым рэч.

Сапраўдную, невымерную адзіноту Менску, дажджу і восені, шэрых і празрыстых дзён, Сельгаспасёлку і Цаглянага, адзіноту, якая тым мацнейшая, чым больш блізкіх людзей навокал, ад якой не схаваешся ў цырку, — ледзяную, як труп, адзіноту жыцьця я не магла больш не заўважаць пасьля яе сьмерці — вось у чым рэч.

Госпадзе, што мы робім з сваім жыцьцём! Хаваем бездапаможнасьць за халоднымі сьценамі спарудаў (гэта мае праекты), прыкрываемся дзецьмі (гэта іх нарадзіла), штодня, як вопратку, нацягваем на сябе новыя і новыя "трэба" — а адзінае, што важна, гэта рудыя валасы ды моцныя рукі чалавека, які лічыць цябе непатрэбным цяжарам.

А менавіта так думаў Ян пра мяне і дзяцей. Ён хацеў жыць у сваім сьвеце, які здаваўся нам прывідным. Мы трымалі яго за крылы. І ён імкнуўся лётаць дзенебудзь далей ад нас.

Дробненькая крытыкеса, трэба думаць, да зямлі яго ня цягне.

Фая казала, што жаноцкасьці ўва мне няма, нягледзячы на субтыльную анатомію: "Ты цяжкавоз-пэршэрон, толькі чамусьці выглядаеш як поні. Бэльгійская кабыла, словам". Можа, і так.

Усьведамленьне таго, што Ян мяне больш не кахае, прыйшло раптам, як прыходзіла ў галаву патрэбная формула. А хутка прысьпела і пацьверджаньне здагадкі.

На вечарыне цыркачоў мяне запрасіў на танец іхны бос — вельмі ўплывовы імпрэсарыё. Па-дзелавому, не абцяжарваючы сябе доўгім сьпічам пра каханьне зь першага погляду ці якімі б там ні было залётамі, ён прапанаваў мне пераспаць, узамен паабяцаўшы ангажэмэнт мужу ў новай праграме. Я падняла вочы на яго абсалютна спакойную фізіяномію і шчыра разрагаталася. Сьмех яшчэ пакалваў мяне, калі па дарозе дадому я расказвала Яну пра нахабу, але весялосьць мая прапала, калі я пачула:

— Ну і навошта ты хаміла? Ведаеш, як важна, каб мяне ўключылі ў праграму...

У памаранчавым сьвятле ліхтара твар Яна здаўся мне стомленым і пастарэлым, тонкі арліны нос — вастрэйшым, чым звычайна. Рудыя ўскудлачаныя валасы страцілі чырвань. Я выняла руку з-пад яго рукі. Рэшту дарогі мы прайшлі моўчкі, а дома я прапанавала яму разысьціся. І ён адразу сышоў.

Дзеці сустракаліся з татам амаль штотыдня, я ж за ўвесь гэты час ня бачыла яго ні разу, затое рэгулярна чытала ў газэтах пра творчы ўзьлёт найлепшага клоўна беларускага цырку...

Аднойчы, яшчэ ў пару жаніцтва, я прывяла Яна на месца, дзе стаяў наш дом да зносу. Цяпер гэта скрыжаваньне дзьвюх вуліц, і штохвіліны тут праносяцца мільён машын. Пры нас дзьве сутыкнуліся на тым месцы, дзе была печ. Патрэскваньне агню, які штовечар і штораніцу распальвала мама, пачулася мне ў цішы, што ненадоўга запанавала пасьля аварыі. Ян ня чуў сьпеваў агню, якія для мяне заставаліся знакам таго, што са сьветам усё ў парадку. Ён чуў толькі лаянку бурачковатварых кіроўцаў ды нецярплівы гуд машынаў. Мы зь ім заўжды чулі й бачылі рознае.

І на трынаццатым годзе разышліся.

Але сутыкнула ж нас вышэйшая сіла, нешта ж яна сабе думала? Дзеля чаго занесла мяне ў магазын "Ноты", дзе я гартала нейкі песеньнік, аж пакуль худы рудавалосы хлопец не крануў мяне за плячо... І пасьля разводу я працягвала думаць пра Яна і, нібыта між іншым, кожны раз цікавілася ў дзяцей, ці пытаўся тата пра мяне. Разумненькі мой Павал заўжды казаў, што так, але, можа, ён проста шкадаваў неразумную маму?

...Ян ізноў выйшаў на арэну, дзе зьбіралі некалькі турнікоў для выступу гімнастаў. Сьмешна шлёпаючы нагамі, ён дайшоў да першага, падскочыў, каб падцягнуцца на перакладзіне, — і ўвесь цырк вохнуў. Пэўна, яе кепска замацавалі — перакладзіна адарвалася, Ян з размаху зваліўся, а таўшчэзныя жалезныя стойкі — на яго. Адна — на грудзі, дзьве — на ногі.

Я тыцнула малога Паўлу і, крыкнуўшы "Сядзіце тут", пабегла па праходзе да Яна. Да яго ўжо несьліся доктар і ўніфармісты з насілкамі, са свайго месца бегла і крытыкеса. Ян не глядзеў ні на доктара, ні на яе. Павярнуў галаву да мяне, зь цяжкасьцю пасьміхнуўся, з куточка рота цурком пабегла кроў, і павекі яго апусьціліся.

Свайго крыку я не пачула: рухнуўшы каля яго на калені, страціла прытомнасьць. У апошняе імгненьне, калі цыркавыя агні круціліся перад вачыма вар'яцкім колам, а з бакоў чорнай ватай напаўзала цемра, я зразумела, пра што думала вышэйшая сіла, калі сутыкнула нас зь Янам у краме "Ноты"...

* * *

Ян адужваў доўга — рабрыны хутка зрасьліся, а вось раструшчаныя косткі ног ніяк не хацелі складацца правільна, і іх давялося двойчы ламаць наноў. Але зь ліха дабро выходзіць: Ян падрыхтаваў нумар пра жалю вартага калеку, які пры канцы выяўляецца багатыром з мабільнікам і "мэрсэдэсам". Нумар вельмі спадабаўся гледачам, калі Ян вярнуўся ў цырк. Праўда, артыкулаў пра яго цяпер значна паменела: былая каханка-крытыкеса зноў узялася была тэлефанаваць у наш дом, але я наладзіла такі паказальны скандал, што сама сябе адчула стопрацэнтна жаноцкай істотай.

Калі я сказала Лысенку, што чакаю чацьвертае дзіця, ён у роспачы вырваў апошнюю пасму валасоў. Праўда, хутка зьмірыўся: а куды падзенешся? У радзільню прыслаў кветкі і чарговае заданьне. Глянуўшы на тэрміны, я пабачыла, што часу на раскачку ён мне не пакінуў. Добра яшчэ, што дзяўчынка была спакойная і дазволіла мне спravіцца ў час.

Я пабаялася назваць яе Фаінай. Няхай будзе Ева — яна ж першая дзяўчынка ў нас.



Рэйманд Карвэр

# БАМБІЗА

Я сяджу ў сваёй сяброўкі — у Рыты, п'ю каву, куру і расказваю.

А расказваю во што.

Была серада — такая, ты ведаеш, марудная серада — і было ўжо парадкам часу, калі Герб пасадзіў за адзін з маіх сталоў бамбізу.

Таўсьцейшага таўсьцюка я ў жыцьці ня бачыла, хоць і выглядаў ён ахайна, і апрануты быў непаскудна. Усё ў ім здаравізнае. А найбольш кінуліся ў вочы пальцы. Я забірала талеркі ў старых за столікам, наступным за ягоным, і мой позірк упаў на ягоныя пальцы. Ну, утрая большыя, чым у нармальнага чалавека: даўжэзныя, тоўстыя, тлустыя.

Я аглядаю астатнія свае столікі: за адным вячэраюць чацьвёра бізнэсоўцаў — такія патрабавальныя! — за другім чатыры чалавекі, тры мужыкі і кабета, ды нейкая старая пара. Ліндэр наліў бамбізу вады, і я добра пачакала, пакуль падысьці.

Добры вечар, кажу. Што будзеце есьці, кажу.

Рыта, але ён быў такі кабан!

Добры вечар, кажа. Здарова. А я ўжо ўсё выбраў, кажа.

І гаворыць так дзіўна, усё носам пасопвае.

Мабыць, пачнём з царскае салаты, кажа. Таксама супу, толькі ж да супу не шкадуйце хлеба і масла, калі ласка. Напэўна, адбіўныя катлеты з маладое бараніны. Ну, і запечанай у сьмятане бульбы. А там пабачым, што на дэсэрт. Вялікі дзякуй, ён кажа, і аддае мне мэню.

Божа, Рыта, ну ў яго і пальцы былі.

Я ляту ў кухню, аддаю Рудзі замову, а ён яе бярэ з такім тварам, ну, ты ж ведаеш Рудзі. Ён заўсёды на працы такі.

Толькі я выйшла, а Марго — я табе апавядала пра Марго, тую, што да Рудзі клеіцца? — а Марго ўжо мне шэпча: гэты жыртрэст што, твой сябрук? Ну ён і кабан.

Цяпер я думаю, усё гэта было часткаю нечага большага. Не, праўда, — частка большага.

Я ў яго за столікам перамешваю царскую салату, а ён за кожным маім рухам назірае, а сам сабе маслам лусты хлеба шмаруе і ўбок адкладае. А носам усё сабе соп-соп. Дык вось, ці то я такая знэрваваная, ці то што, але ў мяне з рук вады шклянка, што для яго несла, на падлогу як бабахне!

Даруйце, калі ласка, кажу. Гэтак заўсёды, калі сьпяшаешся. Прабачце, кажу. Вас не запляскала? Зараз, кажу, прыбяром.

Нічога, кажа, усё ў парадку, кажа ён і носам чмыша. Не хвалюйцеся, на нас не папала, кажа.

Усьміхаецца, рукой махнуў, а я іду клікаць Ліндэра, каб прыбраў. Я падыходжу, каб накласьці яму ў талерку салаты, гляджу — а хлеб і масла ўжо як падмяло.

Я прынесла яму яшчэ хлеба, а салаты ўжо няма. Не, ты ўяўляеш, царскую салату за хвілю як ветрам зьдзьмула.

Ай, дзякуй вам за хлеб, кажа. А хлеб у вас добры, кажа.

Дзякуй на добрым слове, кажу.

Да таго смакуе, кажа. Ну,

Працяг на старонцы 22.



**Рэйманд Карвэр (1938—88) — амэрыканскі празаік, паэт, сцэнарыст. Адзін з самых папулярных аўтараў апошніх дзесяцігодзьдзяў.**

**Вінцэсь Мудроў**

# Конская сіла



УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

— У Кёнігсбэргу былі нядоўга. Праз пару тыдняў усьцягнулі на плятформы гаўбіцы, атрымалі сухі паёк — і-і... — вэтэран махнуў рукой у бок разнасьцежанага акна, за якім ціўкалі вераб'і, — паехалі на ўсход, біць японца.

Вэтэранская рука, якая памятала цёплыя навобмацак 152-мілімэтровыя снарады й гарачыя гарматныя гільзы і за пазногцямі якой — мне так здалося — чарнела выпаленая пруская зямля, лягла на белы абрус, спарадзіўшы ў душы пачуцьцё раўнадушнай спагады.

— Пад Харбінам атрымаў кантузію, і мяне камісавалі. Падаўся дахаты. Прыехаў, пахадзіў — адныя коміны тырчаць. Усё спалена, — вэтэран уздыхнуў, палашчыў ката, які круціўся ля ног, і той, здаволена сцыкнуўшы ценькім, амаль ня бачным струменем, скочыў спачатку мне на калені, а потым на стол. — Уладкаваўся ў школу. Далі мне мне аж пяць прадметаў. Нават беларускую мову выкладаў, — вэтэран скінуў са стала кудлатага сцыкуна, а я, піхнуўшы ў нутраную кішэню пінжака свой журналісцкі блякнот, нясьмела запытаўся:

— Дык мо па-беларуску напішам?

Былы выкладчык белмовы дакорліва, аднымі вуснамі пасьміхнуўся, а гузаваты нос ягоны зьлёгку пачырванеў.

— Э-э... таварыш журналіст... Колькі я праз тую мову наслухаўся розных кпінаў, — вэтэран пакутліва ўздыхнуў, правёў даланямі па сівых валасах, ціха дадаў: — Толькі гэта не для газэты.

Працяглую паўзу перарваў яшчэ адзін пакутлівы ўздых.

— Перад вайной ведаеце як было: усе падручнікі беларускія. Вучыўся я добра; скончыў сямігодку, потым дзесяцігодку, і ў Ленінград падаўся — паступіў у вайсковую вучэльню. І вось, сяджу на іспыце. Адказаў усё без запінкі, выкладчык ківае і запытвае дадаткова. "А ну, — кажа, — якая магутнасьць рухавіка танка Т-35?"

— "Магутнасьць рухавіка танка Т-35, — адказваю, — 280 конскіх сілаў".

Усе, хто быў у аўдыторыі, у тым ліку і выкладчык, палеглі ад сьмеху. А я сяджу, нічога не разумею, а калі сьмех суняўся, ізноў — ці-іха так кажу: "...280 конскіх сілаў..." І колькі я ў тым праклятушчым Піцеры вучыўся, столькі мяне Конскай Сілай называлі. У саракавым годзе, пасьля вучэльні, у Кіеў прыехаў. Іду па горадзе, шукаю сваю часьць. На сэрцы крыху трывожна. Але супакойваю сябе: вось, думаю, і адкаснулася ад мяне гэтая паганая мянушка. І толькі так падумаў, чую — гарлае хтосьці за сьпінаю: "Конская Сіла-а!" Азірнуўся: Васька Альхоўскі з нашага выпуску; бяжыць цераз вуліцу, рэчторбай махае. Я, вядома, выгляду не падаў, парукаўся з Васькам, а на развітаньне папрасіў яго больш мяне так не называць. Вэтэран змоўк, адкінуў нагой ката-назолу і, пасьля паўзы, незадаволена прабурчаў:

— А вы кажаце — беларуская мова...

За акном фурхнула вераб'іная чародка і нехта па-старэчы непракерхана выдыхнуў:

— Пятровіч!

Суразмоўнік узьняўся з крэсла.

— Ну што, Конская Сіла, выходзь, "казла" заб'ём, — прагучала знадворку, і вэтэран, вытыркнуўшы ў акно сівую галаву, няўцямна прамармытаў:

— Сьпіна баліць, дый чалавек у мяне... з рэдакцыі... артыкул да Дня перамогі піша.

Я таксама падхапіўся на ногі.

На парозе мы паціснулі адзін другому рукі.

— А вы кажаце, — паўшэптам паўтарыў вэтэран.

Шэры кот сувора зірнуў на мяне жоўтымі зекрамі і, на знак згоды з гаспадаром, вякнуў — салодка і бязгучна.

Уначы мне прысьніўся танк Т-35. Жалезная гаргара, напінаючы ўсе свае 280 конскіх сілаў, перла насустрач, а на брані, трымаючыся за парэнчыны верхняй вежы, стаяў вэтэран Пятровіч і махаў пустым рэчмяшком. А потым, заўважыўшы мяне, нема загарлаў: "Вася! Вунь ён!" Усе пяць танкавых вежаў разам зварухнуліся, і ў назіральнай шчыліне мэханіка-кіроўцы злавесна бліснулі кацiныя вочы...

— Што, ізноў на сьценку лезеш?! — пачуўся заспаны жончын голас, і я пераведу дых. — І калі ўжо сыдзеш з той газэты, — прамармытала жонка, ускінула на мяне руку і праз імгненьне стоена засапла.

Я доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма, глядзеў на рухомыя сукосьнікі — адбіткі аўтамабільных фараў, што паўзьлі па сьцяне, а калі жонка схрапянула і абхапіла мяне гарачай рукой, прымаючы ў сьне немаведама за каго, падняўся з ложка і пайшоў у кухню піць валяр'янку.



**Вінцэсь Мудроў (нар. 1953) — празаік, журналіст, жыве ў Полацку. Сталы аўтар "НН".**

# БАМБІЗА

**Працяг са старонкі 21.**

праўда. Ня кожны дзень такога смачнага хлеба паясі.

А вы скуль, пытаюся. Нешта я вас раней ня бачыла, кажу.

Але! Такога дзядзечку забудзеш, устаўляе свае тры грошыкі Рыта.

З Дэнвэру, кажа.

Я пра гэта далей маўчу, хоць мяне і заінтрыгавала.

Ваш суп, спадару, за хвіліну прынясуць, кажу я і йду, бо трэба тых чатырох патрабавальных бізнэсоўцаў абслужыць.

Калі я падаю суп, бачу, хлеба ўжо зноў няма, апошні кавалак пайшоў у рот.

Далібог, мала калі такога смачнага хлебца паспытаеш. І ўсё сапе. Вы ўжо мне прабачце, кажа.

Што вы, што вы, кажу, ежце на здароўе. Добра, калі чалавек есьць і яму гэта ў смак.

Мо й так, кажа. Мо й праўда, калі вы так лічыце. І сапе. Папраўляе сурвэтку, потым бярэцца за лыжку.

Ну і ўспушыла пацана, кажа Ліндэр.

Што ён табе, вінаваты, што такі тоўсты, кажу. Закрый ляпу.

Прыношу яму яшчэ кошычак хлеба і масла. Ну, як вам супчык, пытаюся.

Дзякуй. Добры, кажа, вельмі добры, абцірае вусны й прыціскае сурвэтку да потнага падбародзьдзя. Гэта тутака так горача ці гэта мне толькі горача? — пытаецца ён.

Не, гэта так у залі душна.

Тады мы здымем паліто, мусіць.

Калі ласка, кажу, здымайце. Чалавек павінен быць у камфорце.

Праўда, кажа ён. Гэта вы вельмі-вельмі слушна кажаце. Але пасьля я гляджу, а ён як сядзеў, так і сядзіць у паліто.

Тыя кампаніі і старыя ўжо разышліся. Рэстаран пусьцеў. Калі я падавала таўстуну катлеты, і бульбу, і яшчэ хлеба і масла, ён ужо заставаўся адзін на ўсю залю. Я лінула на бульбу сьмятаны ад душы, пасыпала шынкай, цыбуляй і прынесла во гэтулькі хлеба і масла.

Мо яшчэ што, пытаюся.

Не, дзякуй, кажа ён і сапе. Выдатна, дзякуй, кажа і зноў сапе.

Смачна есьці, кажу. Падымаю накрыўку цукарнічкі і зазіраю туды. А ён утаропіўся ў мяне і ўсё ківае, пакуль я не пайшла.

Цяпер я ведаю, мне нешта было трэба. Але тады я ня ведала што.

Твой жыртрэст, кажа мне Гарыета, табе кішкі выесьць. Ну, ты ж ведаеш Гарыету.

Наш фірмовы дэсэрт, кажу, называецца "Зялёны ліхтарык", гэта пудынг з соўсам, ёсьць яшчэ пірог з сырам, марозіва з ваніляй і ананасавы шарбэт.

А мы вас не затрымліваем? Ён пытаецца ў мяне і ўсё сапе заклапочана.

Ані, кажу. Вядома, не. Я, кажу, яшчэ кавы прынясу вам, а вы пакуль думайце.

Мы будзем шчырымі з вамі, кажа ён і гайдаецца. Мы жадаем і фірмовага пудынгу, і марозіва місачку. І на марозіва наверх крапніце капачку шакаляднага сыропу, калі ласка. Мы ж гавасылі, што прагаладаліся, кажа.

Я выходжу на кухню, хачу сама прасачыць, каб яму дэсэрту не пашкадавалі, а Рудзі мне: Гарыета сказала, што ў цябе там туша нейкая вячэрае, хоць ты яго ў цырку паказвай замест клоўна. Што, праўда?

Рудзі фартух зьняў і каўпак зьняў, ну, ты ж разумееш.

Рудзі, кажу, ён тоўсты, але ж ня ў тым справа.

Рудзі сьмяецца. А табе, здаецца, падабаюцца такія сланы.

Ты, Рудзі, ня сьпі ў шапку, пакеплівае Джаана. Яна якраз увайшла й глядзіць.

Я пачынаю раўнаваць, кажа Джаане Рудзі.

Я паставіла перад бамбізам пудынг, а вялікую вазу марозіва з шакаляндым сыропам — трохі збоку.


АЛЕНА АДАМЧЫК

Ну, дзякуй, кажа ён.

На здароўе, кажу, і мяне ахінае нейкае пачуцьцё.

Верыце вы мне ці не, кажа, але мы не заўсёды так ямо.

А я ўсё ем і ем, кажу, але не магу вагі набраць, як ні пнуся.

Не, кажа. Каб наша воля, ніколі б. Але ж гэта ня ў нашай волі.

Потым за лыжку, і есьць.

А далей што, пытаецца Рыта, зацягваючыся цыгарэтай з майго пачка і падсоўваючыся бліжэй да стала. Дзела пайшло весялей, кажа Рыта.

А ўсё. Больш нічога. Ён зьеў дэсэрт і пайшоў. І мы з Рудзі таксама пацёпалі дахаты.

Жыртрэст нейкі, кажа Рудзі і разьмінае плечы. Ён гэтак заўжды пацягваецца, калі стомлены. Пасьля ён сьмяецца і зноў ідзе глядзець тэлек.

Я стаўлю ваду на чай і прымаю душ. Кладу сабе далонь між нагамі і дзівуюся, што было б, каб у мяне былі дзеці і адно зь іх выглядала так, як гэты бамбіза.

Заліваю ваду ў імбрычак, выстаўляю кубкі, цукарніцу і выношу на падносе для Рудзі.

Рудзі, нібы разважаючы сам сабе, кажа: ведаў я неяк, калі я быў дзіцем, двух бамбізаў, такіх двух слонікаў. Маленькія, а тлустыя, Божа мой. Ня памятаю, як іх было зваць. Тлушч — так аднаго пацана і гукалі. Тлушч — клікалі мы яго. Ён жыў побач са мной. А другі хлопец прыехаў у наш раён пасьля. У яго мянушка была — Карова. Усе клікалі яго "Карова", толькі настаўнікі па імені. Тлушч і Карова.

Во каб у мяне іхныя фоткі засталіся, кажа.

А мне да галавы нічога не прыходзіць, проста гарбату п'ём. Я неўзабаве ўстаю і іду класьціся. Рудзі таксама ўстае, выключае тэлевізар, засоўвае ўваходныя дзьверы і пачынае расшпіляцца.

Я кладуся ў ложак, пералажу на край і ляжу там на жываце. Рудзі кладзецца ў ложак і пачынае, як толькі выключылі сьвятло. Я пераварочваюся на сьпіну і крыху расслабляюся, хоць ён мяне крыху змусіў. Ды во што дзіўна: калі ён залазіць на мяне, я раптам адчуваю сябе поўнай, я адчуваю сябе жахліва поўнай, такой поўнай, што Рудзі — нібы ён маляўка якая — амаль зьнікае.

Гэта прыкол, кажа Рыта, але бачу, што ты ня ведаеш, як яго растлумачыць.

Я адчуваю прыгнечанасьць. Але гэтага я ёй расказваць ня буду. Я й так ужо зашмат ёй распавяла.

Яна сядзіць і чакае, пакручваючы валасы сваімі мініятурнымі пальчыкамі. Чакае нечага? Каб жа знацьцё. Цяпер жнівень.

Маё жыцьцё зьменіцца. Я гэта адчуваю.

**Пераклаў з ангельскай А.Д.**

*Алесі К.*



Сэвярын Квяткоўскі

# Шампанскае ў шафе

Новая-сьвежая ялінка сьціпла бліскала агеньчыкамі за сьпінай Галоўнага. Тонкая капэрта легла на стол перад нязголеным чалавекам з чырвона-вінаватымі вачыма на пакамечаным твары. Да Калядаў заставалася колькі дзён.

— Гэта твой апошні заробак у нашай рэдакцыі, спадар А., — сказаў Галоўны й пасунуў канвэрт ад сябе ў бок візыцёра.

Нязголены А. сутаргава схапіўся за грошы, але затрымаў руку на стале:

— У мяне ёсьць новы праект...

Галоўны стомлена матлянуў галавою:

— Зьвяртайся ў "МіЛ". Там надрукуюць ня гледзячы. Заплацяць — на чарку хопіць.

— Я не магу ў "МіЛ". Я ж з вамі... ад пачатку.

— Паслухай, — Галоўны ледзь стрымліваўся. — За гэты год ты не нарадзіў ніводнае талковае тэмы. Усе твае матэрыялы я перапісваў ад пачатку да канца. Мы трымалі цябе да апошняга з павагі да тваіх колішніх заслугаў. Але рэдакцыя ня можа займацца дабрачыннасьцю. Ты ж ня Помнік, якому пры жыцьці плацяць пэнсію. Забірай ганарар — на сьвяты мусіць хапіць. Ты звольнены. Можаш прыносіць свае тэксты, будзем глядзець. Але я ня веру ў цуды.

* * *

— Ну што?! Даў? — Помнік з Кастылём чакалі за рогам будынку, у якім месьцілася рэдакцыя.

Мянушка падобнага да тхара літаратара Кастыля ўтварылася ад прозьвішча Кастэнка. З Помнікам было складаней. Калісьці яго звалі Шурык. Ён прыехаў у Горад з глухое памежнае вёскі і, трапіўшы ў асяродак авангарднаэлітарнага творчага падпольля, "за кумпанію" пачаў пісаць вершы. Калі авангард выйшаў з падпольля, Шурык быў ужо кумірам, вялікім паэтам. Зьяўленьне Шурыка на публіцы выклікала бурлівую рэакцыю. Мужчыны мелі за гонар выпіць з такім чалавечышчам, а жанчыны — ня толькі выпіць. Адзін з колішніх падпольшчыкаў, пасьпяховы бізнэсовец, у парыве захапленьня прызначыў Шурыку пажыцьцёвую прэмію-пэнсію. Грамада верыла, што Шурык — той самы новы Пясьняр, які праславіць Айчыну, якая адраджалася. А Шурык хадзіў па Горадзе зь пляшкай у кішэні дарагога паліто й пужаў людзей учарнелым ад гарэлкі тварам. Бывае, зловіць якога народнага мастака, паэта ці проста добрага чалавека — і прымушае піць зь ім, з Шурыкам! З самым-самым... Так Шурык ператварыўся ў Помніка. У прыжыцьцёвага. Самому сабе.

З часам "пэнсія" спонсарская ператварылася ў нерэгулярныя падачкі — на пахмелку. Ды дзе там гора-бяда! Падпільнуе Помнік знаёмца: "Давай паэму прачытаю". — "Не, Шурычак, сьпяшаюся". — "Тады налі сто грамаў"...

* * *

— Ну што — даў? — прасіпеў Помнік.

— Даў, — абыякава адказаў А.

— Я ж казаў, я ж гаварыў, што дасьць! — Помнік карцінна ўкленчыў на засьнежаным тратуары і ўзьняў рукі да нябёсаў, нібы той Распуцін у хвіліны містычнага экстазу. Мусіла выглядаць, што Галоўны не заплаціў бы заробку А., каб ня Помнікавы "малітвы". Сам Помнік баяўся Галоўнага, бо той адным зь першых заплюшчыў вочы на велічнасьць "прарока-песьняра" й выставіў Шурыка за дзьверы.

Помнік моргнуў у бок зорачкі над шпілем дому, дзе месьціўся гастраном. Пасьля страпянуўся й зрабіўся мітусьліва-заклапочаным:

— Так, на вуліцы піць ня будзем. Халодна, дый мянты тут злыя. Тыдзень таму далі дубца — дагэтуль баліць. Зараз скокну пад шпіль, вазьму пляшачку... Не — тры. Сёньня ў мастака С. народзіны. Майстэрня тут побач. Пасядзім культурна. Давай грошы, А.

— Дык нас жа ніхто не запрашаў да С., — ашчэрыўся Кастыль.

— А, не пязь...і, — адмахнуўся Помнік. — А., чуеш? Давай грошы. А то магазын закрыюць, сёньня ж скарочаны дзень.

* * *

— ...Давайце вып'ем за А., — грымеў сіпаты голас Помніка за сталом у майстэрні С. — Сёньня яго скаціна Галоўны звольніў з працы. З гэтае паскуднае газэткі — цьфу!

— Не трындзі, Шурык, — шчэрыўся Кастыль. — Газэта добрая. Проста ты зайздросьціш. Цябе ў ёй ужо пяць гадоў не друкуюць.

— А чаму не друкуюць? — узьвіўся Помнік. — А таму, што я бабу Галоўнага таго, цю-цю.

— Па-першае, пра бабу — хлусьня. Па-другое, цябе не друкуюць, бо ты ня пішаш.

— А во апошні верш:

Я ляжу ў бульбяне,
Вакол немцы мяне.
Схопяць ці не?
Не, не, не!..

— Гэта яшчэ хтосьці ў пяцідзясятых напісаў-прыкалоўся.

— Т-а-ак? — непадробна зьдзівіўся Помнік. — А я таксама напісаў. Значыць, сапраўды геніяльны верш. Ну, налівай.

А. кульнуў і падумаў: "Мне гамон. Самае прыкрае, што, калі ўзяць і засіліцца, на хаўтуры прыпрэцца Помнік і зробіць сябе галоўным героем імпрэзы. Будзе распавядаць, які ён быў мне сябар. Як ён мне дапамагаў, як падтрымліваў. І што астатнія — скаты. Недагледзелі, недапільнавалі такога выдатнага чалавека. І толькі ён, Помнік, папярэджваў".

* * *

"...Якое чысло, ці пасьпею да вёрсткі нумару?" — думка прымусіла прачнуцца, але вачэй А. не пралупіў. — Нумар здаецца за дзень да Калядаў. Трэба прынесьці такі тэкст, каб Галоўны выкінуў іншы-горшы. Патрэбны шэдэўральны тэкст — тады я маю шанец", — А. паспрабаваў расплюшчыць вочы і зноў ня здолеў. Нос упіраўся ў якуюсьці затухлую апранаху. А. ледзь дыхаў — цьвільлю, перагарам і ўласным потам ад немянянае колькі дзён адзежы. "Цікава, дзе я?" Паспрабаваў павярнуцца — нібы малаток лясну ў галаву. А. застагнаў.

— Божухна, хто тут? — аднекуль здалёк узьнік устрывожаны жаночы голас.

— Ня бойся, Адэлька, гэта сябручок Помніка й Кастыля. Прыпёрліся ўчора да майго С. на дзень нараджэньня. Тых я разагнала, а гэтага не адужала. Адрубіўся першы. І мужык мой такі самы — іменіньнік! Назюзюкаўся ды заваліўся за халстамі. Скаціна... Разьвёў у майстэрні немавед што. Тут такія госьці часам бываюць — крый Божа.

— Ды не нэрвуйся так, Галінка. Не такі ўжо й кепскі твой С. — толькі слабахарактарны крыху. Але ж ты зь ім ужо колькі гадоў жывеш. Значыць, любіш.

— Ды дзе там тая любоў, — цяжка ўздыхнула жанчына.— Няма сілаў. Ачуняе — скажу, што разводжуся, — з грукатам узьнялася з зэдліка ды патэпала да газавае пліты. Вярнулася да стала. Наліла каву ў кубачкі і працягнула:

— А ён тады пачне на калені ставаць ды клясьціся, што гэта апошні раз. Што жыць безь мяне ня можа...

Падумала, сумна ўсьміхнулася:

— А й праўда — ня зможа. Шкада яго — вось і ўся любоў.

Жанчыны пасядзелі моўчкі, запалілі цыгарэціны.

— А ты, Адэлька, чаго хліпаеш? — зьдзівілася Галіна. — Ты ж прыгожая, разумная, таленавітая. Чаго табе трэба? Сядзіш у сваіх Засьценках, як царэўнанесьмяяна. Карціны ва ўсім сьвеце прадаеш. Гады ў рады ў Горадзе зьявішся — адразу вакол хмара мужыкоў з мабільнікамі віцца пачынае. Я раз бачыла, як консул нейкі кветкі табе дарыў. Чаго ты чакаеш?

Адэлька пахіліла галаву:

— І ў Засьценкі да мяне прыяжджаюць. Па карціны. І кветкі прывозілі, пакуль я не забаранііла... А Горад не люблю вось чаму. Чатыры гады таму я сустрэла Яго. Апошні курс Акадэміі, рыхтавалася да дыплёму. Занесла мяне раз на абсалютна бязглуздую імпрэзу — канфэрэнцыю па выніках году. Ён сеў побач, дастаў нататнік, але глядзеў не на прамоўцаў, а ўвесь час на мяне. А пасьля запрасіў на каву, і пачалося... Як казка нейкая. Праз колькі месяцаў Ён зрабіў мне прапанову. Я была такая шчасьлівая! Ажно ўявіла, што ня вытрымаю такога шчасьця — дурніца. Патэлефанавала і сказала, што мы больш не пабачымся. Так яно й сталася. Ён зьмяніў жытло й працу. Я пільную ўсе газэты: калі й піша цяпер, дык пад псэўданімам...

Зацягнулася цыгарэтай:

— Я абараніла дыплём і вярнулася ў свае Засьценкі. Гэта ж невыносна: жыць з чалавекам у адным горадзе, ведаць, што ён дзесьці побач і што можаш сустрэць яго на вуліцы. А ён адно ўсьміхнецца, моўчкі памахае рукой ды пойдзе далей. Вось і зьехала... А іншых мне ня трэба.

Дапілі астылую каву. А. ляжаў — не варушыўся. Адэлька ўзьнялася:

— Пайду я. Хутка цягнік. Трэба яшчэ набыць падарункі сваім у Засьценках.

А. слухаў, як разьвітваліся кабеты, літаральна ўціснуўшыся ў пасьцелены на падлозе стары паліто́н.

* * *

У рэдакцыі панавала звычайная перад здачай нумару мітусьня. Усе імкнуліся хутчэй завяршыць справы, каб пасьпець падрыхтавацца да Калядаў. А. ціхенька шмыгнуў міма кабінэту Галоўнага да стала свайго колішняга прыяцеля Фэлікса, які сядзеў, упёрты ў кампутар.

— Дзядзьку, выручы мяне, — адчайна й адначасова рашуча выгукнуў А. замест вітаньня.

— Грошай ня дам, — гэтаксама адчайна й рашуча адказаў Фэлікс. — Сёньня зранку твой сябрук Помнік прыходзіў, ледзь адкупіліся. Магу пляшку шампанскага "пазычыць".

— Я не пра грошы, — А. не міргаючы глядзеў на Фэлікса. — Дастань дыктафон. Уключы яго.

Фэлікс неахвотна выканаў просьбу.

— Слухай, — пачаў А., — гэта было гады чатыры таму, акурат перад Калядамі...

Распавядаў спакойна, крыху манатонна. На сканчэньне разьвёў рукамі:

— Як толькі яна сышла, падняўся з паліто й ціхенька, каб не пачула гаспадыня, уцёк з майстэрні. І вось я тут.

— І што я мушу рабіць з запісам? — запытаўся Фэлікс.

— Гэта ж шыкоўная гісторыя! Гатовы тэкст, які толькі трэба зьняць з дыктафона. Галоўны мяне звольніў. А гэта мой шанец. Ад цябе я прашу канцоўку. Калі ласка, прыдумай штоьнебудзь круцейшае за хэпі-энд, — А. скарыстаўся з разгубленасьці Фэлікса і пачаў адступацца да дзьвярэй. — Я пагуляю пару гадзінак, а ты падумай над фіналам, добра?.. Ты ж сапраўдны пісьменьнік.

* * *

Калі А. вярнуўся, перад Фэліксам на стале ляжалі некалькі сьвежараздрукаваных на прынтэры аркушыкаў. На першым стаяла імя А.

— Напісаў?

— Амаль, — змрочна адказаў Фэлікс. — Я зьняў твой расповед са стужкі слова ў слова. Але не стае апошняга сказу. Я зраблю колькі даведак і...

Фэлікс працягнуў А. запісаны нумар тэлефону:

— Звані!

— Куды?

— Звані й кажы, што кахаеш яе. І не забудзься купіць кветкі, як паедзеш. Цягнік праз гадзіну.

А. паглядзеў на паперку з нумарам і ўзяўся за слухаўку.

— Для Галоўнага я напішу за цябе іншае апавяданьне, а гэтае, — Фэлікс уклаў у руку А. аркушыкі, — ты павязеш Ёй. На Каляды.

І дадаў:

— Шампанскае ў шафе.



**Сэвярын Квяткоўскі (нар. 1973) — радыёжурналіст, пісьменьнік. Сталы аўтар "НН".**

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Радаслава!** З Днём народзінаў і Калядамі! Хай шчасьціць табе ва ўсім! Бабуля, дзядуля

**Юлечку Калячку** віншую з Днём народзінаў! Будзь заўсёды вясёленькаю, здаровенькай. Галоўнае — не згубі сваёй маладосьці ў марных справах. Жыві заўсёды з надзеяй. Твой тата

**Маю жонку** Сьветлыньку і будучага майго сына (дачку) цалую пяшчотна, бо Езус ужо нарадзіўся. Зьміцер

**Тату Самуіла** з Днём нараджэньня! Сын

**10 "Г"**, "А", "В", 11 "В", "Г" — з вакацыямі й Калядамі! Пагарцуйце сабе крыху! З.Дыхт

**Асабістыя віншаваньні** Віялеце Пачкоўскай! Так трымацца! Алег

**Віншую жонку Тоньку Марозаву** і цудоўных суседзяў Васіля і Лідку Кардаш з Калядамі й Новым годам. Здароўя і каханьня. Віктар

**Спадару Мікола Півавар**, спазьняюся, але — з Народзінамі цябе! Чаму б табе не ажаніцца, га? Шызы

**Надзею**, Уладзіка, Юльку і Кацю віншую з надыходам сэсіі. Дзіма

**Хрыстос нарадзіўся!** Слаўце Яго!

**Віншую ўсіх чытачоў** "Нашай Нівы" з Раством Хрыстовым. Raisa

**Нашаніўцы!** З Калядамі! З Новым годам! Новых праектаў, таленавітых аўтараў, вострых тэм, цікавых аповедаў. Чытач

**Віншую** любую сястрычку Радаславу з Днём народзінаў. Ружана

**Радаслава!** Нарадзіцца на Каляды — Божая ласка. Няхай ніколі яна не пакідае цябе! Валянціна, Тацяна

**Даражэнькія мае маці** й тата, віншую вас з Раством. Усё мае быць добра! Зьміцер Казакевіч

**Беларусы!** Цемры — капцы! Сьвятла прыбаўляецца. Бо Ён ужо ў ясьлях. З Раством вас! З.С.

**Спадары Паўлюк** і Сямён, віншую з народзінамі. Зычу даўжэйшых валасоў, пляціце косы. А.Р.

**Зычу беларусам** дабра і моцы ў новым 2003 годзе! Грамадзянін БНР

**Віншую беларусаў** з Раством Хрыстовым! Уніят

**Вялікі дзякуй** за сонца, мора, бананы ды інцыя падарункі. Я вас усіх вельмі моцна люблю. Тусік

**Алесю Ягораў**, з Днём народзінаў, з табой цяжка, і безь цябе ніяк. Беларус з-пад Воршы

**Віншую ўсіх чытачоў** "Нашай Нівы" з хуткімі сьвятамі! Алег

**Беларускім партыям** жадаю больш розуму і рашучасьці. Алег

**Прывітаньне, Zidzi.** Прывітаньне, Zidzi. Прывітаньне, Zidzi. Прывітаньне, Zidzi

### in memoriam

**Дружа!** Два гады, як няма з намі Веры Церлюкевіч. Ці паклаў ты кветкі на яе магілу?

### ідэі

**Усе**, хто пацярпеў за Беларусь, трывайце! Нічога не праходзіць бясьсьледна! Алег

**Даеш датэрміновыя** прэзыдэнцкія выбары пад наглядам войск ААН! Рыгоравіч

**"Каб усе** былі адно" (Ян 17: 21)

**За яе міласьць** Івонку Сурвіллу, старшыньку Рады БНР, Госпаду памолімся. Грамадзянін БНР

**Як у свой час** прафукалі Смаленск, Беласток і Вільню, так цяпер прафукваем Беларусь. Можа, ужо досыць нам нянаскіх гімнаў? Можа, ужо годзе гуляць у паддаўкі?

**Што калгасы ня кормяць**, што "гарант" добрага жыцьця ня дасьць, а ў саюзе з Расеяй зьнікнем, як маманты, ведаюць многія, але чамусьці маўчаць. Не маўчыце, патрабуйце ўступленьня Беларусі ў эўрапейскія структуры. Толькі так мы выжывем

**На першай** паласе "НН" павінен быць чырвоны колер. BLR

**Раз на тыдзень** чытаць "Нашу Ніву" — гэтага, на жаль, мала! Беларус

**Змагайся** за Волю Айчыны ў шэрагах Беларускай партыі Свабоды! Пэйдж.: 211-00-00, аб. 83602

**Колькі** патрэбна саюзаў, каб Беларусь засталася незалежнай? Адзін Саюз незалежных дзяржаў ужо ёсьць — гэта СНД. Raisa

**Мару дажыць да таго часу**, калі мужчыны ў Беларусі перастануць насіць жахлівыя шапкі-вушанкі. Дзяўчына

**Збавіць нас** ад асыміляцыі і расейскага ярма роднамоўная ўлада, а не чужамоўная — халуі Расейскай імпэрыі! Беларусы, разумейце гэта, яднайцеся! Касьцюковіч

**Бог нам раіць** зь Неба: "Прэзыдэнта выбіраць зь беларусаў трэба. Беларуса РоднаМоўнага, а не ЧужаМоўцу!" — Касьцюковіч

**Каб на Зямлі перамагло Сьвятло** і згінула Цемра, трэба, каб усе людзі жылі па Запаветах Божых, таму трэба барацьбу са Злом пачынаць з самаўдасканаленьня. Той, хто не жадае жыць паводле Божых Запаветаў, судзейнічае сілам Цемры — Сатанінскім сілам, хоча ён таго ці не. Raisa

**Ад нашае** нягоднае краіны — раве ды стогне ня толькі Украіна! Але ёй "дастаецца" больш за ўсіх

**Зянон Пазьняк** — альтэрнатыва Лукашэнку. Таму так нэрвуецца г-н Донар-Расейскі з Масква-рэчыцы

**Русіфікацыя** завершана. Хвалёнае канстытуцыйнае дзьвюхмоўе растаптана. Ізноў Беларусь пад расейскай акупацыяй. Хай якуты і чукчы радуюцца расейскаму ярму. Нам, беларусам, такое "шчасьце" ня трэба. Мы аб'яднаемся і станем свабоднымі! Касьцюковіч

**Застаўся ў Жывых** роспачны Псіх — усім Свой ды ня той! Апошні ґерой?.. Я болей не гуляю са сваёй Душой! Якая ёсьць — ды мне яна гадзіцца...

**Няўдзел** у выбарчым падмане — складнік нашага змаганьня за Бацькаўшчыну!

**У мясцовай улады** няма ўлады, затое ёсьць вялікія аклады. Нашто нам гэткая "ўлада"?

### кантакты

**Суполка Экалягічнай партыі** зялёных "БЭЗ" Жлобіна запрашае да супрацоўніцтва. Т.: (02334) 37-3-97

**Наведайся** на сайт "Старога Ольсы": www.olsa.by.ru

**Данчык**, калі завітаеш з канцэртамі ў родны край? Беларусы

**БПС чакае** патрыётаў-нацыяналістаў штоаўторак ля помніка Я.Купалу а 18-й гадзіне

**Бясплатна** дам даступныя рэцэпты, якія лечаць аблысеньне, алькагалізм, некаторыя хваробы пячонкі, астму й іншае. Ад Вас — капэрта са зв. адрасам. Вул.Цітова, 121—15, 210021, Віцебск. Бабульцы Іне

### кнігі, музыка

**Беларускую** азбуку набудзем. Т.: 288-63-84

**Прадаю новую Біблію**, а таксама цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі ў цудоўным стане. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг зь вельмі нізкімі цэнамі. А/с 21, 210021, Віцебск

### прадаю

**Прадаю паліцу** для кніг. Ручная работа. 25 тыс. Лакаваная. Пакой 419, вул.Кастрычніцкая, 4 (інт.5), Менск

### праца

**Безвыходна!** Кабета, 44 гады, матфак БДУ, шукае любую працу. Кемлівая, старанная. Т.: 261-22-55

**Вазьму на карэктуру** тэксты (наркамаўка, тарашкевіца, лацінка). Магчымы пераклад з расейскай на беларускую. Т.: 265-75-73

### цукеркі

**Каго цікавіць,** куды зьніклі беларускамоўныя назвы з прадукцыі фабрыкі "Камунарка", тэлефануйце намесьніцы дырэктара ў пытаньнях вытворчасьці Трапко Людміле. Т.: 219-73-89



IREX-PROMEDIA

# Сабакам. З празьнічкам. Граждан

**Аднаму сабаку даручылі** напісаць навагодняе віншаваньне, зь якім Граждан павінен быў выступіць на фэрме буйной рагатай жывёлы. Сабака ўсю ноч думаў. А раніцай да яго на трактары прыехаў другі сабака, сказаў "служы пану верне" і ўручыў павестку ў войска.

**Адзін сабака еў** на Каляды смажанага індыка зь яблыкамі. А Граждан закусваў мерзлай антонаўкай і чытаў казкі пра Карлсана, які жыве на даху.

**Адзін сабака сабраў** перад Новым годам падначаленых, павіншаваў і ўручыў падарункі. Граждан сабраў сваякоў і сказаў: "Брацьця і сёстры, ніхто ня хоча нам болей дапамагаць. Я зьяжджаю ў невядомым аўтамабілі, а вы рыхтуйцеся да супружаскай ізьмены".

**Адзін сабака пераапрануўся** ў Дзеда Мароза і прыйшоў віншаваць Граждана. А той, пераапрануты ў пасла белых арапаў, прапанаваў яму ўзначаліць атрады дзікіх абізьзян і захапіць на Новы год у горадзе ўсе прыбіральні.

**Адзін сабака набыў** перад Новым годам пляшку шампанскага. Адкаркаваў за сьвяточным сталом, а зь яе вылез Граждан, увесь у пене, і сказаў: "Цяпер кожная кухарка зможа кіраваць дзяржавай!"

**Аднаму сабаку на Каляды** прыйшла пасылка з Амэрыкі. Адчыніў яе сабака, а адтуль выскачыў чорны Граждан і закрычаў: "У мяне была сабака, я яе любіў!.."

**Т.К.**

## паштовая скрынка



**Усеваладу С. зь Вялейкі.** "НН" рэдка мае магчымасьць друкаваць этнаграфічныя матэрыялы. Паспрабуйце аддаць свой у "Рэгіянальную газэту" ці "Куфэрак Віленшчыны".

**Ганьне С. з Койданава.** Дзякуй за віншаваньне. Вясёлых Вам Калядаў!

**Лявону Г. зь Менску.** Традыцыйна юбілейным лічыцца інтэрвал у 25 гадоў, так што 120-годзьдзе Коласа і Купалы — не зусім юбілей. Дый які сэнс быў ставіць у "НН" "юбілейныя" панэгірыкі? Калі трапляецца нам што цікавае пра Янку ды Якуба — друкуем неадкладна.

**Антону В.** Запытайце ў дырэкцыі ТАА "Санта Брэмар", чаму марозіва "Магія" падпісанае па-расейску і па-ўкраінску, а па-беларуску — не.

**Сяргею Б. зь Менску.** У творы "Мы будзем жыць" ня "выкарыстаныя думкі" з апавяданьня Роальда Даля *"Genesis and Catastrophe"*, а папросту перапісаны ягоны сюжэт, за якім Вас, як аўтара, не відаць.

**Віталю Ч. зь Менску.** Казка Вашая завялікая для газэты. Маеце меншыя — дасылайце.

# Новы нумар "ARCHE"




У гэты аўторак у кіёсках "Белсаюздруку" зьявіўся новы нумар "ARCHE". Ён прысьвечаны творчасьці таленавітага маладога пісьменьніка Андрэя Хадановіча. Публікуюцца яго вершы і пераклады, а таксама блёк крытычных матэрыялаў аб ім. Юры Андрухові̌ч, Лявон Баршчэўскі, Марыя Мартысевіч ды іншыя раскрываюць загадку Хадановіча. Уладзімер Арлоў у вершаванай форме апісвае незвычайны выпадак, калі і як яму прысьніўся Хадановіч.

Віцебскі палітоляг Уладзімер Гарбацкі рэфлексуе над фэномэнам гомасэксуалізму ў заходнім і беларускім грамадзтве. Гарадзенскі эсэіст Даніла Жукоўскі дае параўнальны аналіз творчасьці Вінцэся Мудрова і Леаніда Маракова.

Артыкулы Паўла Казанэцкага "Беларуская палітыка Польшчы" і Ганса-Георга Віка "Пабудова дэмакратыі ў Беларусі. Цьвёрды арэшак для эўрапейскіх арганізацыяў" не пакінуць абыякавымі нават тых, хто не цікавіцца палітыкай.

Таксама ў нумары друкуецца палеміка аб сучасных формах і ідэйных зьместах беларускага нацыяналізму, у якой бяруць удзел Уладзімер Арлоў, Валер Булгакаў, Сяргей Дубавец і Сяргей Ерш.

Сярод рэшты публікацыяў вылучым цудам ацалелае ліставаньне Яна Станкевіча і Антона Адамовіча 1944—45 г. і сугучны зь сёньняшняй духоўнай сытуацыяй у Беларусі раман Тадэвуша Канвіцкага "Малы Апакаліпсыс". Закрывае нумар п'еса Андрэя Курэйчыка "Выканаўца жаданьняў".

**В.Б.**

Віншуем Аляксандру, Андрэя і Якуба з нараджэньнем Усьціньні. Няхай расьце здаровай ды разумнай усім на радасьць!

*Родныя*

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не болей за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

____________________________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон _____________________

## Наступны нумар "НН"

**выйдзе 10 студзеня, у пятніцу. З наступнага году "НН" будзе выходзіць у новым дызайне.**

**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ерш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| тэхнічны рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**www.nn.by**


8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3901.

Нумар падпісаны ў друк 25.12.2002.

Замова №8737.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а